PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 28 (1939) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 11 ЛІПЕНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Родныя краявіды. Рака Нарва ля мястэчка Нарва.* **Фота Я. Целушэцкага**

## ВАЛЭНСА Ў БЕЛАРУСІ

Пра візіт прэзідэнта Рэчыпаспалітай у Беларусь польскія сродкі масавай інфармацыі паведамлялі ў той дзень, калі ён пачынаўся. У тэлебачанні, радыё і газетах цытавалася адна фраза з выказвання Валэнсы, што „да 2000 года не павінна быць ніякіх межаў паміж Польшчай і Беларуссю". Палякі глядзяць на Беларусь, як на малаістотную для іх краіну, штосьці накшталт Малдовы, Арменіі, Латвіі. Калі яшчэ нешта іх цікавіць, дык гэта выключна лёс суродзічаў і Каталіцкага касцёла за ўсходняй мяжой. Выглядае так, быццам было ім усё роўна, ці за Крынкамі, Гарадком, Чаромхай будзе незалежная беларуская дзяржава, ці расейская губерня з каланіяльнай адміністрацыяй. Пачынаючы з „Gazety Wyborczej", а канчаючы на беластоцкіх штодзённіках 28 чэрвеня пісалася, што адной з галоўных тэмаў візіту будзе справа Супрасльскага манастыра. Міфы і балбатня, якія выцякаюць з недахопу асноўных ведаў пра ўсходняга суседа, проста ашаламляюць.

І трэба было толькі пераключыць радыёпрыёмнік на хвалі „Вольнай Еўропы", „Свабоды" ці „Бі-Бі-Сі", каб даведацца, што адбываецца ў Менску. У „Бі-Бі-Сі" пайшла нават размова з членам замежнай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі і адначасова намеснікам старшыні БНФ Валянцінам Голубевым, які вельмі ясна прадставіў напрамкі беларускай палітыкі. Голубеў выразна сказаў, што калі БНФ акажацца пры ўладзе, шанаваць будзе ўсе існуючыя межы, але адначасова мае намер дапамагаць сваім суайчыннікам на этнічных беларускіх землях па-за межамі дзяржавы так, як робіць гэтае напрыклад палякі і расейцы ў адносінах да сваіх суродзічаў.

Вечарам, зараз пасля інфармацыйных паведамленняў у польскім тэлебачанні пачынаецца падобная тэлеперадача ў беларускай праграме. Сапраўды, візіт Л. Валэнсы быў паказаны вельмі дэталёва: прывітанне на аэрадроме, гімны, праезд картэжу аўтамашын у цэнтр горада, сустрэчы, ушанаванне памяці змагароў за Бацькаўшчыну падчас ІІ сусветнай вайны, а нават ускладанне кветак ад прэзідэнта РП да крыжа ў Курапатах (чаго не прадбачыў раней узгоднены пратакол). Не было толькі інфармацый пра тое, што магло б быць нявыгадным для пануючай наменклатуры — пра сустрэчу Л. Валэнсы з лідэрам парламенцкай апазіцыі Зянонам Пазняком.

На другі дзень знаходжання ў Беларусі запланавана было выступленне прэзідэнта Польшчы перад дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Прамову Валэнсы ў парламенце, як і ўсе яго выступленні падчас перагавораў, перакладаў на беларускую мову старшыня БДА Алег Латышонак. Што гаварыў прэзідэнт РП дэпутатам? Сказаў ён, між іншым: „Дэмакратыя не мае альтэрнатывы. Аднак яе пабудова — справа нялёгкая. Патрабуе яна шматлікіх гаспадароў, актыўнасці грамадзян і свабоды дзеяння. Дэмакратыя, так як і рыначная гаспадарка, мае шмат паваротаў і заўсёды паяўляецца вялікая спакуса, каб пайсці напрасткі. Дэмакраты трэба давяраць і адначасова хадзіць каля яе, каб дала пажаданы плён.

Польшча і Беларусь ляжаць у цэнтры кантынента. У мінулым наша геапалітычнае становішча было нашым праклёнам. Цяпер можа быць вельмі карысным. Наша гісторыя і традыцыя прымушае нас скарыстаць гэты шанц, які дае нам сённяшняя Еўропа. Яднаючыся з Еўропай, мы не павінны пераносіць да сябе ўсіх іх узораў, але ўзяць тое, што найлепшае.

Польшча і Беларусь патрэбныя адна адной. Будучыня нашых суадносін мае добрыя перспектывы. Гавару аб гэтым пад уражаннем надзвычай сардэчнага прыёму мяне ў Беларусі. Беларусь для нас — пажаданы партнёр. Канчаюцца працы над тым, каб гдыньскі порт аддаць у карыстанне беларускаму флоту, неўзабаве адкрыты будзе польска-беларускі банк, польскі капітал штораз больш ангажуецца ў беларускі рынак.

Недахоп адказнасці давёў да чарнобыльскай трагедыі. Паказала яна ўсю хлусню камуністычнай сістэмы. Мы дапамагалі беларусам як маглі, бралі дзяцей да сябе на адпачынак і далей дапамагаць будзем па меры магчымасцей. Як гаворыцца: „сапраўдных сяброў пазнаецца ў бядзе", але мы, свабодная Рэчыпаспаліта і Беларусь, будзем сябрамі і ў багацці. Нас спалучае не толькі супольны лёс, але таксама супольнасць інтарэсаў. Супрацоўніцтва — гэта шлях да шчасця народаў. Веру ў паразуменне, сяброўства і будучыню. Будзьма разам. Да такой пабудовы нашых суадносін запрашае вас прэзідэнт Рэчыпаспалітай".

Пасля выступлення Валэнсы і па яго ным развітанні з дэпутатамі, Вярхоўны Савет працягваў сваю працу. А там пачалося шаленства камуністычных „прадстаўнікоў народа". Дзяржаўнае тэлебачанне, кантраляванае ўрадам, рабіла толькі рэтрансляцыю выступленняў рускамоўных „ашаломаў". Першы дэпутат, які выступаў пасля Валэнсы, назваў палітыку прэзідэнта Шушкевіча вяртаннем у сямнаццатае стагоддзе. „Вы разбураеце дружбу рускага і беларускага народаў. Дапускаеце, каб гаварылася пра Вацлава Іваноўскага як пра нацыянальнага героя, а ён жа фашыст і здраднік. Недаацэньваецца ў нас са-

☞ *Працяг на стар. 2*

## РАЗГАВАРЫВАЕЦЬ... НАРОДНЫ ФРОНТ

Менск рыхтаваўся да з'езду беларусаў з усяго свету. „Бацькаўшчына" павысылала запрашэнні на ўсход, на захад... Вялікага свята чакаў тэатр оперы і балета...

Чэрвень. Бараметрычны мінімум перасунуўся з цэнтральнай Еўропы над Беларусь, разам з дажджом і халадэчай. Па сталіцы снуюцца сонныя панурыя персоны пад парасонамі (няшмат іх — пачаліся ўжо водпускі). Зрэдку праязджаюць машыны, час ад часу бліскае новым лакам заходняе ламаччо. У ятках, якія павырасталі як грыбы пасля дажджу, заходнія „тавары" з доўгімі радкамі цыфраў цэнаў. Гарэлкі шмат. Талоны на транспарт і праезд у метро — ужо па адным зайчыку (10 рублёў). Тэлефанаваць па Менску далей можаш без жэтонаў.

Стаю на вуліцы імя аднаго нямецкага рэвалюцыянера, амаль у цэнтры беларускай сталіцы (два прыпынкі ад дома ўрада). Чакаю аўтобуса. Вулічка спакойная, ні таксоўкі, ровара нават не відна, ды і людзей мала, а ля гэтай вуліцы ёсць і сярэдняя школа, і політэхнічнае вучылішча, бадай ці не сувязістаў. Вось паявіліся вучні, пэўна з гэтае школы, коратка астрыжаныя здаровыя юнакі і паненка, усе ў джынсавай форме.

Падымаю трубку тэлефоннага аўтамата. Патэлефаную да свайго сябра, пісьменніка-пачаткоўца, пакуль няма транспарту...

Пачалося! „Разговариваець Народны фронт!" Не спадабалася маладзёнам мая мова! Маю перастаць размаўляць, бо зараз буду збіраць з тратуара свае зубы! Маладыя сувязісты спалучаюць адмыслова ўсе чатыры (усе тэлефоны — працуюць!) аўтаматы, падключаюцца да размовы. Вызываюць нас ад дурняў, „дзеравеншчыны..." Самы здаровы з іх пачынае мяне тузаць, штурхаць нагой у спіну, прабуе адключыць рычаг аўтамата, вырывае трубку з рукі... Чакаюць, відна, што я спалохаюся, кіну трубку, уцяку... Стапталі мне ўжо пантофлі, паабівалі косткі ног, пабрудзілі нагавіцы. „Смотри, у тебя брюки грязные! Ну, кончай же, сколько тебе надо?!" Урэшце, удаецца ім перарваць размову, націснуўшы рычаг. Я спакойна пераходжу да іншага тэлефона, прашу прабачэння ў знерванага і разгубленага размоўцы... Зноў адзін падбягае да мяне. Слухай, можа, паразмаўляем па-ангельску? — Не, я не знаю английский, — адказвае хлопец, крыху разгублены.

Зноў ідуць!.. Але тут пад'язджае аўтобус н-р 57. Хлопцы выходзяць з яго якраз насупраць тэатра оперы і балета, у якім праз пару тыдняў пачнецца з'езд...

„Назапрашалі землякоў з захаду, з усходу ў сталіцу, — кажу Яўгену Лецку, — каб тут іх нейкія вашыя „інтэрнацыяналісты" абражалі?

А што мне параілі ў той дзень мінчане? Трэба было кінуць усё і ўцякаць! Вядома, я з гумарам адказала: „Што, Лукша мае ўцякаць? Не, трупам упадзе за Беларусь, але ўцякаць не будзе!" З гумарам...

Беларусы ўмеюць, ой, як умеюць уцячы, схаваць галаву ў пясок, растварыцца на фоне, каб не заўважылі, не пакрыўдзілі, не зняважылі. Каб не чапляліся, яшчэ раз. А яны прывыклі да таго, што беларус не піснe, толькі пяткамі бліснe. Чакаюць нармальнай рэакцыі: уцёкаў. Іншыя паводзіны даводзяць да яшчэ большай агрэсіі. Што ж, мы самі іх навучылі.

**МІРА ЛУКША**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Prezydent, który powołał bezpartyjną partię, ma pomysł na Polskę. Każde województwo przyśle czterech obywateli: kapitalistę, pracownika najemnego, rolnika i samorządowca. Co będzie dalej?.. Przyjdzie pracownik najemny, np. piekarz, poda swój telefon i zjednoczy wszystkich piekarzy wokół reform. Podobnie zrobi kapitalista, rolnik i samorządowiec. W ten sposób wszyscy zostaną zjednoczeni... W interesie piekarza leży jednak, aby zboże było jak najtańsze. Tak się składa, że rolnik ma na ten temat diametralnie odmienne zdanie. Ciekawe jest to, że prezydent najwyraźniej zamierza przekonać ich, iż obaj nie mają racji.*
*(Gazeta Współczesna, nr 121)*

Albo przekonać, że obaj mają rację, co na jedno wyjdzie. **Калі хтосьці яшчэ ў змозе такое зрабіць, дык толькі Валэнса. І няма чаго абурацца, што пекар з гаспадаром хочуць парабіць здымкі з Лехам. Іншыя ўжо рабілі, а яны што — не могуць?!**

* * *

***Нездарма географы сцвярджаюць, што цэнтр Еўропы знаходзіцца недалёка ад Менска.***
***(Адам Мальдзіс, у ЛіМе н-р 23)***

Залежыць, якія географы. Мы ведаем такіх, што памяшчаюць той цэнтр каля Сухаволі, калі на самой справе ён на палове дарогі паміж Гарадком і Высранкай.

* * *

***Паводле слоў міністра сувязі і інфарматыкі Беларусі Івана Грыцука, кожнае другое пасланне, асабліва за мяжу, — ускрываецца. Аматары пажывіцца шукаюць у канвертах долараў.***
***(ЛіМ, н-р 23)***

Беларуская пошта мае свой падыход да змагання з эканамічным крызісам. Іншая справа, што ўся наша рэдакцыя так і не дабілася толку, якая ж гэта грамадская праслойка пасылае долары з Беларусі за мяжу. Можа, працаўнікі амерыканскага пасольства?

* * *

*Wczoraj po raz pierwszy zebrała się rada programowa prezydenckiego BBWR. Blok chce wystawić 2240 kandydatów do parlamentu — zapowiedział rzecznik Belwederu Andrzej Drzycimski.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 146)*

Усё добра, але што будзе, як яны ўсе пяройдуць?! Jezus Maria! Аўтар перадачы „Polskie ZOO" падключыўся да BBWR. Czuje, facet, bluesa. Няўжо прыйдзецца глядзець skądinąd сімпатычную перадачу пяць разоў у тыдзень? О, дык у такім разе мы не далучымся да пана прэзідэнта.

* * *

*Jednym z tematów rozpoczynającej się dziś w Mińsku wizyty prezydenta Lecha Wałęsy na Białorusi będzie prawdopodobnie spór o odzyskanie klasztoru prawosławnego w Supraślu pod Białymstokiem.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 148)*

А дзве старонкі далей:

*Od ponad tygodnia kilkunastoosobowa grupa wiernych blokuje wejście do mińskiej katedry. Parafianie żądają, by władze przekazały im odebrany w latach 30 kościół.*

Znaczy się, wasz klasztor, a nasza katedra? Няўжо і тым разам Міхнік не памыляецца? Ну, пабачым.

* * *

*Moskwa też sparaliżowana.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 148)*

Але не ў тым месцы, што трэба.

* * *

*W USA podobno pierwszy rzut najzdolniejszych idzie do biznesu, drugi do nauki, a dopiero trzeci do polityki. W Polsce być może byłoby podobnie, gdyby pierwsze dwa rzuty nie wyjeżdżały do USA właśnie.*
*(Polityka, nr 26)*

Але менавіта гэты rzut беспамылкова трапляе ў Матку Боску ў klapie. А амерыканцы нават у цэлага Садама Хусейна не патрапляць.

* * *

*Okazało się, że dla białoruskiej prasy polski prezydent, o ile nie mówi nic sensacyjnego, jest po prostu nieciekawy. Inne znaczenie miała wizyta polskiego prezydenta dla niektórych Polaków. W Baranowiczach i Nowogródku witały go tłumy. W mieście urodzin Mickiewicza Wałęsa załatwił katolikom zwrot kościoła dominikanów.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 151)*

# З мінулага тыдня

**Папа Ян Павел II** заявіў у Ватыкане ў прысутнасці дэлегацыі **Праваслаўнага канстанцінопальскага патрыярхату**, што адзінства ўсіх хрысціян пад канец другога тысячагоддзя становіцца штораз больш выразным імператывам веры. Папа сказаў гэтае падчас урачыстасці ў базіліцы св. Пятра ў гонар апосталаў Пятра і Паўла — патронаў Рыма.

**У 50 гадавіну** пачатку фашысцкага генацыду цыганоў папа **Ян Павел II** прыняў дэлегацыю цыганоў з Польшчы, Аўстрыі і Нямеччыны. Звяртаючыся да дэлегатаў папа сказаў, што трэба маліцца, каб злыя сілы, якія сталі прычынай генацыду цыганоў і яўрэяў, не з'явіліся больш у гэтым і ў наступных стагоддзях. Польскія цыганы ўручылі папу „Памятную кнігу" з 21 тысячай прозвішчаў цыганоў з усёй Еўропы, замучаных у гітлераўскім канцлагеры Біркенаў.

**Пілігрымка сем'яў палякаў**, замардаваных энкавэдыстамі ў 1941 годзе падчас эвакуацыі турмы ў Глыбокім-Беразвеччы на Віцебшчыне, ушанавала іх памяць у 52 гадавіну гэтай трагедыі. У касцёле ў Глыбокім і на магільніку набажэнствы служыў капелан катынскіх сем'яў ксёндз **З. Пэшкоўскі**. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі прадстаўнікі польскіх улад і пасольства, беларускіх арганізацый, а таксама мясцовае насельніцтва.

**Прэзідэнт Эстоніі Ленарт Мер'і** адтэрмінаваў выкананне ўхваленага нядаўна парламентам закону аб чужаземцах да часу, калі свой погляд на гэтую справу выкажа Рада Еўропы і **СБСЕ (KBWE)**. Масква лічыць, што згаданы закон дыскрымінуе расійскую меншасць. Рашэнне прэзідэнта было выклікана рэакцыяй Расіі, якая спыніла пастаўку газу ў Эстонію.

**Вярхоўны Савет Расіі** паўторна адмовіўся ратыфікаваць расійска-венгерскае пагадненне аб добрасуседскіх адносінах і супрацоўніцтве з тае прычыны, што ў прэамбуле знаходзіцца словы асуджэння савецкай інтэрвенцыі ў Венгрыі ў 1956 годзе. **Яўгеній Амбарцумаў**, старшыня камітэта па справах стасункаў з замежжам, паясніў, што такі запіс стварыў бы небяспечны прэцэдэнт „калі б Расія мела каяцца за ўчынкі зробленыя Савецкім Саюзам".

**У Ваяводскім судзе ў Варшаве** зарэгістравалася чарговая 213 партыя. Называецца яна **Нацыянальная партыя беспрацоўных**.

**Нацыянальныя, этнічныя і рэлігійныя меншасці ў Еўропе** — так называецца міжнародны маладзёжны семінар у Белавежы, арганізаваны Брацтвам праваслаўнай моладзі. На семінар прыехала моладзь з Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Румыніі, Літвы, Беларусі і Фінляндыі. Зварот, ухвалены ўдзельнікамі спаткання, заклікае, каб большасць ставілася да меншасцяў згодна хрысціянскаму прынцыпу любові да бліжняга. Далей пішацца ў ім аб патрэбе гарантыі нацыянальным меншасцям праводу на навуку роднай мовы, на карыстанне гэтай мовай ва ўстановах дзяржаўнай адміністрацыі, на доступ да сродкаў масавай інфармацыі.

Па запрашэнню **Брацтва праваслаўнай моладзі** на Беласточчыне пабывала **маладзёжная футбольная каманда праваслаўнага прыхода ў Чыкага**. Спартсмены разыгралі матчы ў Гайнаўцы і Беластоку, наведалі, між іншым, Грабарку і Белавежу.

**З царквы ў Курашаве**, у якой цяпер праводзіцца рамонт, зладзеі ўкралі чатыры каштоўныя іконы і літургічны келіх.

**На кантрольна-прапускным пункце Брузгі — Кузніца** пад канец чэрвеня машынам на ўезд у Польшчу трэба было чакаць аж 210 гадзін (дзевяць дзён!). 29 чэрвеня чаканне скарацілася да 20 гадзін. Гранічная страж мяркуе, што беларускія пагранічнікі, спадзеючыся вяртання праз гэты КПП прэзідэнта **Леха Валэнсы** пасля заканчэння афіцыйнага візіту ў Беларусі, вырашылі хутчэй адправіць турыстаў на польскі бок.

**Раённая пракуратура ў Гайнаўцы** арыштавала **Сяргея С.** — аднаго з членаў Управы горада, які сфальшаваў рахунак на 15000 крон за начлег у гасцініцы падчас прабывання дэлегацыі горада ў Швецыі. З увагі на магчымыя блізкія кантакты ўмяшаных у справу членаў Управы горада з прадстаўнікамі гайнаўскай Феміды, Раённая пракуратура звярнулася ў Ваяводскую пракуратуру ў Беластоку выключыць яе са следства ў справе сфальшаванага рахунка з пабыўкі дэлегацыі Управы горада Гайнаўкі ў Швецыі. Ваяводская пракуратура ў Беластоку вырашыць, каму перадаць далейшае следства.

Міжнародная велагонка **"Па Гродзенскай і Сакольскай землях"** адбылася ў пачатку ліпеня. Прыняло ў ёй удзел па пяцьдзесят польскіх і беларускіх веласіпедыстаў.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Гарадок і музычнае шаленства.
- Злачынствы, якіх нармальны чалавек не прыдумаў бы.
- Амаль усё пра гміну Кляшчэлі.
- Як жыць пенсіянеру на вёсцы?



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЦЯЖКА ЖЫЦЬ БЕЗ БІСКУПА

На Беларусі шырыцца кола прыхільнікаў грэка-каталіцкай (уніяцкай) веры. Зараз у рэспубліцы створана ўжо каля пятнаццаці уніяцкіх абшчын. Аднак не вельмі ўважліва ставіцца да патрэб уніятаў Ватыкан. Ужо два гады як грэка-каталікі просяць прысланць ім біскупа.

І вось днямі ў падтрымку уніятаў выступілі вядомыя на Беларусі людзі: Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Адам Мальдзіс, Рыгор Барадулін, Мікола Купава, Анатоль Сідарэвіч і іншыя. Яны звярнуліся да Старшыні беларускага парламента Станіслава Шушкевіча і прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, а таксама да міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі з просьбай паскорыць вырашэнне пытання аб прызначэнні біскупа для грэка-каталікоў рэспублікі, а таксама аб перадачы уніяцкай царкве будынка былога касцёла Святога Язэпа ў Менску.

### ЗАБАСТОЎКА АДМЯНЯЕЦЦА, ЦЭНЫ РАСТУЦЬ

Пасля двухтыднёвых перамоў з адміністрацыяй заводаў і прадстаўнікамі ўлады, страйкавыя камітэты шэрагу менскіх прадпрыемстваў вырашылі не праводзіць забастоўку. У сувязі з гэтым было падпісана адпаведнае пагадненне, у якім рабочым было паабяцана павысіць заробак.

Зрэшты, па ўсім відаць, страйкавы рух спыніцца на Беларусі не надоўга. Як вядома, у пачатку ліпеня Расія павышае цэны на вугаль, а гэта значыць, што і суседнюю Беларусь не абміне чарговы рост цэнаў. І натуральна, цяперашні заробак, пенсіі, стыпендыі жыхароў рэспублікі зноў застануцца мізэрнымі.

### АПЕТЫТ ПРЫХОДЗІЦЬ У ПРАЦЭСЕ

Днямі ў адным з судоў Менска зноў пачаўся скандальны працэс па іску старшыні парламенцкай камісіі Мечыслава Грыба да газеты „Свабода" і журналіста Аляксандра Старыковіча. Нагадаем, што ў канцы мінулага года Аляксандр Старыковіч апублікаваў у „Свабодзе" матэрыял аб карупцыі ў органах дзяржаўнай улады Беларусі. У артыкуле згадвалася і прозвішча спадара Грыба. Ён палічыў сябе абражаным і звярнуўся ў суд з іскавай заявай. Працэс шмат разоў адкладваўся і перапыняўся, і вось днямі разбор справы быў прадоўжаны. Мечыслаў Грыб, які да гэтага часу не вылучаў матэрыяльных прэтэнзій да адказчыкаў, вырашыў усё ж падзарабіць. За нанесены маральны ўрон ён запатрабаваў выплаціць у якасці кампенсацыі 900 тысяч рублёў (прыкладна 900 долараў ЗША). Ці задаволіць суд апетыт народнага дэпутата, стане вядомым праз некалькі тыдняў.

### МАТКА ПРАДСЛАВА

Афіцыйнай эмблемай з'езда беларусаў свету ў Менску стала выява Ефрасінніі Полацкай — „усіхная матка Праслава, заступніца Беларусі". Аўтар эмблемы — вядомы на Беларусі мастак Эдуард Агуновіч.

### ПАКАРЭННЕ РУБЛЯМІ

На Беларусі не сціхае перапалох у сувязі з тэлеграмай Цэнтральнага банка Расіі да першага ліпеня даць дакладны адказ на пытанне: Ці застанецца рэспубліка ў „рублёвай зоне"? Спікер беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч так пракаменціраваў карэспандэнту інфармацыйнага агенцтва „БелаПАН" ультыматум расейскіх банкіраў: „У выпадку, калі б Рэспубліка Беларусь прыняла ўмовы, на якіх цэнтральны банк Расіі прапануе ўвайсці ў „рублёвую зону", гэта была б катэгарычная страта не толькі самастойнасці, але і самапавагі. На гэта суверэнная дзяржава не пойдзе".

Разам з тым, Станіслаў Шушкевіч выказаў спадзяванне, што ўрад Расіі не падзяляе пазіцыі цэнтральнага банка, і з Саветам Міністраў Расейскай Федэрацыі ўдасца ўладзіць гэтае балючае пытанне ў бліжэйшы час. Зрэшты, малаверагодна, што цэнтральны банк Расіі асмеліўся б праводзіць іншую „палітыку", чым урад. І „дамовіцца" з Саветам Міністраў Расіі кіраўніцтву Беларусі будзе не вельмі лёгка. Таму, відаць, калі наш урад і парламент усё ж не пажадаюць выходзіць з „рублёвай зоны", то давядзецца паступіцца суверэннасцю Беларусі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ВАЛЭНСА Ў БЕЛАРУСІ

*Працяг са стар. 1*

праўдных змагароў за „радзіму", перакрэсліваецца нашую славутую савецкую дзяржаўнасць". Асабліва „ветэраны" ўпалі ў стан нейкай адурманеласці. Дэмагогіі канца і краю не было. Усё тое, што існавала побач савецкай сістэмы, а тым больш, калі было супраць яе, аказалася здрадай, фашызмам, рэнегацтвам, маральным балотам (адкуль мы гэта ведаем?). Дасталася пры нагодзе і Юры Туронку за ягоную кніжку пра Іваноўскага.

Амаль цэлы дзень народныя „дэпутаты" змагаліся каб апарат дзяржаўнай бяспекі аддаць у рукі прэм'ер-міністра В. Кебіча, які мае ўжо кантроль над тэлебачаннем, радыё і прэсай.

**Я.М.**

## БЕЛАРУС — ЁН І Ў ПОЛЬШЧЫ ТАЛЕРАНТНЫ

Чуткі аб тым, што ў апошнія гады Польшчу літаральна акупіравалі беларускія рэкецёры і іншыя злачынцы, аказваюцца быць моцна перабольшанымі.

Паводле звестак польскай паліцыі, самымі агрэсіўнымі турыстамі, якія наведалі ў мінулым годзе РП, з'яўляюцца грамадзяне Расіі. На іх долю прыпадае больш за палову (51,9 працэнта) усіх злачынстваў, здзейсненых на тэрыторыі Польшчы іншаземцамі. Другое месца ў гэтым „чорным" спісе займаюць украінцы — 20 працэнтаў. „Уклад" беларусаў на гэтым фоне выглядае вельмі сціплым — усяго 3,9 працэнта.

Што датычыць пацярпеўшых у крымінальных здарэннях на польскай зямлі, то тут першынство мелі ўкраінскія грамадзяне — 27,3 працэнта ад агульнай колькасці іншаземных ахвяр злачынстваў. Часта не шанцавала і расійскім турыстам: амаль кожны пяты з іх таксама быў абрабаваны падчас турпаездкі ў РП. Нашы суграмадзяне займаюць у гэтым спісе трэці радок — 14,9 працэнта.

Дарэчы, для параўнання: у мінулым годзе Польшчу наведала каля 950 тысяч грамадзян Беларусі, а колькасць турыстаў з Расіі склала больш за 1,5 мільёна чалавек, з Украіны — больш за 2 мільёны.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**
*„Звязда" нр 105*

## БАЛАГАН НА РЫНКУ

У кожны панядзелак у Кляшчэлях вялікі базар і, можна дадаць, вялікі балаган. Тут вольнаму воля - рабі што хочаш; абы дужэйшы і спрытнейшы - то маеш козыр у руках. Такія жулікі займаюць найлепшыя месцы, гэта значыць пры ўваходзе, і найгоршае тое, што робіцца тут такая таўкатня, што нельга ні ўехаць, ні выехаць фурманкай. Тут можна страціць не толькі галаву, але і куплены тавар. Пра гігіену ці нейкую культуру то і гаварыць дарма; лаянка тут пастаянная ды і да кулакоў мала бракуе. Трэба, каб мясцовыя ўлады ўстанавілі нейкі парадак, але яны, і войт, і паліцыя нават носа не хочуць паказаць на кляшчэлеўскім рынку - праклінаюць іх за гэта сумленныя купцы і прадаўцы.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ЧАЛАВЕК НЕПАЎТОРНАЙ ЭПОХІ

Так можна назваць Яна Крука з Навасадаў, які ўспамінае час свайго дзяцінства, час вялікіх падзей. Яго жывыя і сапраўдныя прыгоды таленавіта апісвае сп. П. Байко. Ян Крук, якому 93 гады, многа ведае і ўсё добра помніць. Варта было б, каб наш П. Байко выведаў ад яго як найбольш, бо яго ўспаміны прыбліжаюць нам праўду аб нашым мінулым. У артыкуле пра паляванне цара Мікалая II пазнаем мы асобу апошняга расейскага імператара вачыма непасрэднага сведка. Цар быў чалавекам рэлігійным, спагадлівым, прастадушным. Калі б такім не быў — ніколі не падарыў бы залатога гадзінніка стораж Фёдару Назаруку за прычыненую яму царскім сынам непрыемнасць. Чэркес з аховы, які выцягнуў Назарука з вады, не пабаяўся сказаць аб гэтым імператару (сказаў бы ён Сталіну!), які моцна ўсхваляваўся пастукам свайго сына. Толькі бальшавікі і іх паслядоўнікі зрабілі з апошняга рускага імператара крывавага забойцу; гэтага ў школах вучылі нас дзесяткі гадоў. Царэвіч Аляксей быў трохі хуліганаваты, так як і мы ўсе, калі былі маладымі, ён быў хвараваті і гэта магло быць прычынай яго капрызаў. Важным у артыкуле з'яўляецца эпізод, калі адна жанчына выйшла з натоўпу, упала перад царом на калені і на сваю галаву палажыла прашэнне, якое цар узяў і схаваў у кішэню. А калі яго ўзяў, дык просьба жанчыны, напэўна, была споўнена. Пра падобныя справы я чуў і раней. Расказваў аб іх мой бацька, які хаця цара не бачыў, але рускую гісторыю добра ведаў; бачыў затое адмірала Калчака і гаварыў, што Калчак быў вельмі добрым чалавекам.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ДЗЕ КУПІЦЬ КАНЯ?

Дзядзька Валодзя з вёскі Сяські што ў Заблудаўскай гміне прымушаны быў прадаць сваю старую, ядушлівую кабылу. Добра служыла яна гаспадару апошнія 11 гадоў, аднак цяпер ужо цягнуць плуг не была ў змозе. Купец знайшоўся добры - прадстаўнік італьянскай гандлёвай фірмы заплаціў за старэчу 11,5 мільёна злотых. У вёсцы Стрыльцы гэтай жа гміны той жа купец забраў за 8 мільёнаў каня, які ўжо 2 тыдні не ўставаў на ногі. Прадаць гэтую жывёлу цяпер вельмі лёгка і сапраўды за такога-сякога каня можна набыць яшчэ някепскага "фіята 126р". Іншая праблема, калі камусьці трэба купіць каня. Калі хто не мае трактара, без "дэраша" ці "каштана" ніякі з яго гаспадар. Можна не мець каровы, свінні, курэй, гусей, але конь і сабака абавязкова ў гаспадара павінны быць.

Аб'ехаў дзядзька Валодзя ўсю ваколіцу, 20 кіламетраў наўкола. Калі хто і прапануе нешта, дык толькі такога ж каня, якога наш сябра нядаўна пазбыўся. За жывёлу, якая дае надзею, што прынамсі пад цяжарам хамута не ўпадзе, уласнікі прасілі 15 мільёнаў. Конь, які мог бы і плуг цягнуць, каштуе ўжо 20 - 22 мільёны.

З года ў год цана гэтага віду жывёлы павышаецца непрапарцыянальна да росту цэнаў кароў і свіней. З года ў год нараджаецца менш жарабят, а замежныя аматары конскага мяса плацяць 2 - 3 разы больш, чым за ялавічыну. Таму амаль напэўна, што такая сітуацыя будзе працягвацца. Шкада толькі, што конь, ад стагоддзяў прысутны ў нашым жыцці, неўзабаве адыдзе на старонкі літаратуры.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

## КЛЯШЧЭЛЕЎСКАЯ ДЭМАГРАФІЯ

У Кляшчэлеўскай гміне пражывае каля чатырох тысяч чалавек. Жанчын тут на 110 больш, чым мужчын. Найбольшыя вёскі - Кляшчэлі, Дашы, Палічна, Дабрывада і Сухавольцы.

У гміне жэніцца ў сярэднім 25 пар у год, нараджаецца 45 дзяцей і памірае 40 чалавек. Найбольш шлюбаў бывае ў кастрычніку і лістападзе - па 5-6, у маі - 4 ды ў жніўні і верасні - па 3.

Найбольш папулярныя імёны ў нованароджаных дзяўчынак гэта: Анна, Кацярына, Марціна, Паўля і Патрыцыя. Адна дзяўчынка атрымала даволі экзатычнае імя - Ясміна (бацька яе - араб). Для хлопчыкаў найчасцей давалі імёны: Каміль, Юрка і Давід. У адным выпадку хлопчыку далі імя Арыель. Незвычайнае, праўда?

Да найстарэйшых жыхароў Кляшчэлеўскай гміны належаць: Антаніна Якубоўская (ёй 104 гады) з Кляшчэляў, Еўдакія Федарук (101 год) з вёскі Жукі, Кацярына Міхальчук (100 гадоў) з Кляшчэляў. Па дзевяноста гадоў Галене Паўловіч і Марыі Якубоўскай з Кляшчэляў ды Параскеве Казімерук з Сухавольцаў. Сярод мужчын дзевяноста гадоў Лявону Баране з Тапаркоў. Жадаем ім многа здароўя!

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## ВАЛЕНЦІКІ ЗНОЎ У БЕЛАВЕЖЫ

Сужонства польскіх фільмоўцаў Бажэна і Ян Валенцікі добра вядомыя ў Белавежы ўжо шмат гадоў. Тут яны рэалізавалі перадачы для тэлевізійнага цыкла "Звярынец" і іншыя прыродазнаўчыя фільмы. Менавіта ў Белавежскай пушчы здымаліся фільмы "Зялёныя лёгкія Польшчы", "Справа белавежскага зубра", "Пушча зубра" і "Следам лася". Цяпер спадары Валенцікі пачалі рабіць здымкі для прыродазнаўчай серыі "Пульс першабытнай пушчы" ("Tętno pierwotnej puszczy") з пяці паўгадзінных фільмаў: "Вялікі дом", "Жыць - значыць тварыць і змагацца", "Веліканы і карлікі", "Не толькі іклы і кіпцюры", "Жывая сетка". Усе гэтыя фільмы прысвечаны паасобным экалагічным праблемам, але кожны з іх будзе спалучацца аўтарскімі каментарыямі з папярэднім і наступным.

- У нашай стужцы, бо мы з жонкай і аўтары сцэнарыя, і рэалізатары серыі, - гаворыць Ян Валенцік, - хочам паказаць Белавежскую пушчу крыху інакш, чым дагэтуль. Хочам пранікнуць у яе нутро, паказаць, як функцыянуе яе арганізм, якія ўзаемазалежнасці між светам раслін і жывёл, так паасобнымі відамі, як і іх групамі, акрэсленымі згуртаваннямі. Хочам растлумачыць гледачам, чаму пушча столькі гадоў існуе, чаму яна ізноў адраджаецца пры пастаянным некарысным уздзейнні на яе чалавека. Напрыканцы паставім пытанне, а мо лепш сказаць - звернемся з заклікам зрабіць нешта карыснае дзеля лепшай аховы пушчы.

Здымкі, у якіх удзельнічаюць таксама аператар Гжэгаж Класоўскі і яго асістэнт Кшыштаф Комар, будуць працягвацца з 2-3 месячным зімовым перапынкам да канца ліпеня 1994 г. Сама серыя павінна быць гатовая да эмісіі ў студзені 1995 г. Здымачная група будзе працаваць у Белавежскай пушчы. Плануюцца таксама здымкі з верталёта. Рэалізатары разлічваюць і на дапамогу мясцовых навукоўцаў, аматараў прыроды, паляўнічых. Галоўным навуковым кансультантам з'яўляецца в.а. дырэктара Белавежскага нацыянальнага парку д-р Чэслаў Аколаў, які ў такой ролі выступае ўжо неадноўчы.

- Наш фільм, - дадае Бажэна Валенцік, - будзе мець дзве моўныя версіі - польскую і англійскую. Будзе ён таксама распаўсюджвацца і на відэакасетах. І яшчэ - хочам напісаць кніжку, выкарыстоўваючы ілюстрацыйны матэрыял, накоплены падчас рэалізацыі серыі.

"Пульс першабытнай пушчы" рэалізуецца па заказу Аддзялення прыродазнаўчых праграм Адукацыйнага тэлебачання. Кіраўніком прадукцыі з'яўляецца Славамір Банецкі.

**ПЁТР БАЙКО**

## НЕ ТОЛЬКІ ВІКТАРАЎ САД...

Прачытаўшы ў „Ніве" верш Віктара Шведа „Стары сад", падумаў я сабе, што грэхам было б не адгукнуцца на яго. Ты, дарагі Віктар, сваім вершам закрануў не толькі жыццё сваіх блізкіх і свайго саду, але крануў успаміны аб перажытым у многіх з нас, а насамперш маё жыццё, жыццё майго нябожчыка бацькі, ну і наш стары сад. Толькі жывучы на месцы, у бацькоўскім доме, не ўспамінаеш аб гэтым, таму што ўсё ёсць наштодзень. Праўда, аднаго бацькі ўжо няма. І некаторыя дрэўцы ўжо паўміралі, стоячы паўміралі, як ім і прыстоіць. А так, за штодзённай мітуснёй не глядзіш на свой сад, не ўспамінаеш пражытага паўстагоддзя, гадоў сваіх пражытых не лічыш. Толькі калі заглянеш у свой дакумент, тады з трывогай уздыхнеш. З недаверам сам сябе запытаеш, ці гэта праўда, што столькі пражыў, калі ж гэта прайшло?

А час не чакае. Ляціць, здаецца, з кожным годам хутчэй. Пару разоў „Стары сад" прачытаў я, тады ўсё перад вачыма паўстала, першыя дрэўцы, што бацька купіў — бацька быў малады, а я сам яшчэ малеча, — як садзілі мы іх. Памагаў я бацьку, як мог, дрэўца трымаў, а ён пад карэньчыкі зямельку змякчаў. Дрэўца таксама жыве і калі дагледзіш яго, адплаціць яно табе, не ўгледзіш, калі плод прынясе.

Сад наш быў не малы. Гаспадарлівы бацька быў і дабро для сям'і сваёй працай прыдбаць ён любіў. Памятаю яшчэ, калі першы яблык ці груша ў багатую восень даспее, тады бацька той плод, быццам што вельмі каштоўнае, у хату нясе, склікае ўрачыста сям'ю і дзеліць яго між нас. А сам патрабуе ацэнкі ўсіх, як і што, здаецца, гаворыць яго позірк. А калі навальніца праходзіла, бацька не мог уседзець у хаце, у вокны ўсё глядзеў і пытаў сам сябе, ці хаця шкоды яна ў садзе не нарабіць. Маці са злосцю яму гаварыла, адыдзі ад акна, чуеш як пярун лупануў зусім блізка, а ты тырчыш у акне і шкадуеш свой сад больш, чымсьці блізкіх асоб. Так бывала не раз, такі ўжо бацька мой быў.

Пад восень бывала, калі яблыкі гнулі галінкі ўніз, знoўку бацька іх ратаваў, кажучы мне, паглядзі, сынку, колькі яна яблык хоча нам даць, аж сама не можа вытрымаць, мусім ёй памагчы. І памагалі. Так было да гэтай пары, пакуль былі ў бацькі сілы. Аднак жыццё зрабіла сваё, бацька веснаў шмат назбіраў, амаль восемдзесят пяць, садам не мог ужо займацца. Памятаю, перад смерцю паклікаў ён мяне да дрэўца і сказаў: сынку, хутка я ўжо ад вас адыду, о, гэту галінку адрэж, а тут падвяжы, не забудзь, яблыньцы крону паправіш тады, так зрабі, добрыя яблыкі родзіць яна.

Усяму надыходзіць канец. Бацька памёр, вечная яму памяць. Сад з кожным годам менш мае пладавітых дрэў, таксама аджывае свой час. І калі б не Віктар Швед, ніхто не звярнуў бы на яго ўвагі. Дзякуй, Віктар, за верш, за тое, што памяць вярнуў на так многа гадоў назад. Здаецца, такі кароценькі верш, а навеяў успаміны радасці пражытых дзён. І выціснуў слязу смутку па тых, што адышлі ад нас.

**ГРЫША МАРОЗ**

## НАША ПОШТА

**Дарагі Спадар Галоўны Рэдактар!**

Вельмі дзякуем, я і мае сяброўкі, за гэта, што Вы напісалі ў „Ніве" адрас Д. Шатыловіча і за прысланую нам „Ніву" н-р 4. Мы раней ужо прачыталі ў нашага суседа, які атрымоўвае „Ніву" з Орлі, наш ліст. І наш знаёмы, які паехаў да свайго брата ў Сахачэў, зайшоў і купіў у аўтара 20 штук „Эцюдаў падарожжа" і 20 штук „Майго Пдляшша". Тут ён прадаваў іх па 1 долару за экземпляр і ўжо ўсё прадаў. Гэта ў нас дорага, бо 1 долар каштуе 135 латвійскіх рублёў. Тры экземпляры купілі нават знаёмыя з Беларусі, дзе долар вельмі дарагі. Калі б гэтыя кніжкі не былі такія дарагія, то на Беларусі было б можна іх прадаць і 1000 штук. Але пры такой цане там іх не купяць.

Яшчэ раз вельмі Вам дзякую!

**Лігія Кумпіна з сяброўкамі,**
**г. Даўгаўпілс, Латвія**

# Д'ЯБЛЫ

*Прапануем нашым чытачам артыкул Зянона Пазняка, які ў маі г.г. друкаваўся ў менскай газеце „Звязда", заснавальнікамі якой з'яўляюцца Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь. Мы доўга разважалі, ці паказаць на старонках „Нівы" кашмар савецкай рэчаіснасці ў першых гадах яе існавання. Аўтар ніжэйдадзеных радкоў дайшоў да вываду, што зверстваў бальшавікоў не мог прыдумаць чалавек, а толькі д'ябал, адтуль і загаловак артыкула. Чытачам са слабымі нервамі не раім чытаць гэты матэрыял, а асабліва другі і трэці адрэзкі, якія з'явяцца ў чарговых нумарах „Нівы".*

**Рэд.**

* * *

У пачатку сакавіка я атрымаў ліст з Пінска ад вядомага ўрача-псіхіятра Льва Пятровіча Наваковіча. Ён паведамляе: „Спецыяльна для „Звязды" напісаў і сёння высылаю белетрызаваны акт пасмяротнай псіхіятрычнай экспертызы хваробы Леніна, дзе прыводзіцца разгорнуты дыягназ і яго абгрунтаванне. У „Медицинской газете" 18.09.1992 г. надрукаваны мой артыкул „Болезнь Ленина: диагноз психиатра", дзе прыведзенае абгрунтаванне ленінскага прагрэсіўнага паралічу. Артыкул абмяркоўваўся на кафедры псіхіятрыі Беларускага інстытута ўдасканальвання ўрачоў трыццацю псіхіятрамі. Дыягназ прызнаны правільным.

Пры здаровым меркаванні камунізм-ленінізм — не настолькі ўтопія, — заўважае Л. Наваковіч, — колькі трызненне. Сусветная рэвалюцыя, знішчэнне капіталізму, прыватнай уласнасці і г.д. у сусветным маштабе — гэта мегагаманічнае трызненне, якраз і характэрнае пры прагрэсіўным паралічы. „Шматмудрасць", шматслоўе, мноства пісьмовай прадукцыі, ідэй (паталагічных), агромністая воля-гіпербумія, цяга да разбурэння, пастаянны (да 1921 г.) ленінскі неадэкватны смех — усё гэта сімптомы маніякальнага стану, ажыятацыі, у якіх „самы чалавечы чалавек" знаходзіўся. Жорсткасць яго паталагічная, уласцівая пры арганічным паражэнні мазгоў", — піша ўрач.

Дарэчы, пра неадэкватны „ленінскі смех". Урачы адзначалі, што ў першыя гады пасля перавароту настрой у Леніна быў пастаянна „павышаны". Ён шмат рагатаў. Пра гэта з замілаваннем пісала А. Стасава: „Часта на пасяджэннях ЦК можна было чуць выбухі гучнага рогату...

„Апісаныя змяненні мазгоў, — піша Л. Наваковіч, — не бываюць пры раненнях, атручваннях,ператамленнях і неўласцівыя спадчыннаму захворванню. Акадэмік Б. Пятроўскі справядліва адзначыў, што не 5 і не 10 гадоў хварэў гэтым захворваннем Ленін, яно пачалося задоўга да 1917 г. Псіхіятр праф. В. Осіпаў у „Красной Летописи" (1927 г.) апісаў лячэнне хворага правадыра: яго лячылі прэпаратамі ёду, ртуці, мыш'яку і прышчэпкамі ліхаманкі (малярыі), г.зн. было праведзена актыўнае антысіфілітычнае лячэнне. Прышчэпкамі малярыі тады лячылі прагрэсіўны параліч...

Характэрная сімптаматыка, развіццё хваробы, яе стадыйнасць, завяршэнне і праведзенае антысіфілітычнае лячэнне — усё гэта дазваляе цалкам абгрунтавана і неабвержна сцвярджаць, што У.І. Ленін звыш 10 гадоў хварэў хранічным спецыфічным менінгаэнцэфалітам — познім нейрасіфілісам у выглядзе прагрэсіўнага паралічу з распаўсюджаным атэрасклерозам сасудаў мазгоў".

Афіцыйны дыягназ — „распаўсюджаны атэрасклероз сасуда на глебе заўчаснага іх зношвання" — не адлюстроўвае сутнасці захворвання...

„Геній" быў нервовапсіхічна хворым, і пара сказаць народу праўду, дзеля яго ж прасвятлення, — піша Л. Наваковіч.

Хвароба не можа кампраметаваць чалавека, нават калі яна звязана з псіхікай і галавой. Справа нават не ў тым, што ён асабіста стаў прычынай неверагоднага генацыду, голаду, людаедства, вынішчэння мільёнаў нявінных людзей. Такіх сярод герояў і галаварэзаў у гісторыі хапае (хоць Ленін і вылучаецца). Справа ў тым, што хвораму Леніну, які ідэалагічна акумуліраваў і палітычна ўвасабляў вар'яцкія ідэі, створаны камуністычнай сістэмай ілжывы міф генія, заснавальніка „перадавога" вучэння, вялікага тэарэтыка і „самага чалавечнага чалавека". Гэтым міфам апраўдваюцца не толькі забойствы, агрэсія, разбурэнні, насілле, абалваньванне людзей, палітычны і духоўны прыгнёт, хлусня. Апраўдваецца вучэнне аб гэтай хлусні. Маўляў, вучэнне правільнае, ды вось „сказілі". Камунізм будзе „жыць вечна". Трэба толькі трымаць „чысціню" ленінскіх ідэй. А „ідэі" псіхапатычныя.

Міф пра Леніна вынікаў з патрэбнасці самазахавання савецкай таталітарнай сістэмы. Усе камуністычныя правадыры ўмацоўвалі гэты міфічны культ і хавалі яго таямніцы. Гэтак жа, як некалі культ Сталіна, ленінскі міф ператварыўся ў тыповы для камуністычных краін сурагат рэлігіі — сацыяльнае ідалапаклонства.

Могуць запярэчыць: але ж тое, што казаў і рабіў Ленін, тое самае гаварылі і ажыццяўлялі іншыя бальшавікі. Не ўсе ж яны былі хворымі маньякамі? Так, у клінічным сэнсе не ўсе. Бальшавіцкае вар'яцтва асобай уласцівасці. Гэта псіхічная хвароба сэрвільнага грамадства, сацыяльная шызафрэнія калектывісцкай ідэалогіі. Клінічныя маньякі ў такім асяроддзі нічым не вылучаліся, хіба што, часцей былі завадатарамі. У тым і справа, што калі б у бальшавіцкай сістэме на пасадзе Леніна апынуўся любы з яго „соратников" (падкрэсліваю, любы), яму стварылі б аналагічны цёмны культ. Ведаючы бальшавізм, хіба цяжка ўявіць на месцы генсека Леніна, скажам, Льва Троцкага, Свярдлова ці Дзяржынскага, Зіноўева ці Кірава, Лацыса, Радэка, Склянскага, Менжынскага, Кагановіча ці Бухарына? Не цяжка. А генсекам стаў, між іншым, шэранькі малаадукаваны Коба, у мінулым крымінальнік. І што атрымалася?! — Геній усіх часоў і народаў.

Трэба сказаць, што „соратники" — вартыя свайго правадыра. За міфы пра іх камуністы прадаўжаюць трымацца, як п'яніца за слуп. Ім хочацца знайсці сярод бальшавікоў хоць адну нармальную асобу ў чорным пантэоне. Чаго вартыя апошнія спробы абяліць такога агіднага індывідуума, як Бухарын. Гэты „выдающийся теоретик", „любимец партии", „прекраснодушный интеллигент" пісаў у сваёй працы „Экономика переходного периода" (1920 г.): "Расстрелы являются одной из форм становления коммунистического общества". Альбо: „Без массовых репрессий и расстрелов нам коммунизма не построить". Ці яшчэ: „Пролетарское принуждение во всех своих формах начиная от расстрелов... является методом выработки коммунистического человека из человеческого материала капиталистической эпохи".

Метад „выработки коммунистического человека" ў дачыненні да Бухарына прымяніў Сталін. Пры гэтым „теоретик" быў моцна напалоханы, плакаў і не хацеў ператварыцца ў „коммунистического человека".

Пабудову камунізму па бальшавіцкай методыцы Ленін і „соратники" пачалі адразу пасля кастрычніцкага перавароту. Былі ліквідаваны ўсе судовыя ўстановы. 10 лістапада 1917 г. спекулянты аб'яўляюцца „ворагамі народа" і „расстрельваюцца на месцы". У іншым ленінскім дэкрэце „ворагамі народа" аб'яўлены сяляне, што маюць „лішкі хлеба". (Из истории ВЧК, — М., 1958). У лістападзе 1917 г. утварылі Рэвалюцыйныя Трыбуналы, якія кіраваліся „велением революционной совести" і складаліся спачатку з сямі чалавек, а з 17 лютага 1919 г. — з трох („ревтройки"). Ідэя Леніна. Нагадаю, напрыклад, яго тэлеграму ў Ніжагародскі Саўдэп 9.08.1918 г.: „... составить тройку диктаторов, навести тотчас массовый террор, расстрелять и вывезти..." і г.д.

5 верасня 1918 года быў прыняты дэкрэт СНК аб стварэнні канцлагераў. Бралі заложнікаў. Забойствы без суда і масавыя расстрэлы сталі звычайнай з'явай.

Цікава заўважыць, што Сталін не прыдумаў літаральна нічога новага, чаго б не было ў Леніна. Нават ідэі „СМЕРШа" і „заградотрядов" нарадзіліся ў галаве Ільіча. Праўда, не ўсё, што напісана Леніным, можна прачытаць. Поўны збор твораў яго — гэта ў значнай ступені фальсіфікацыя. Там шмат купюр, ніяк не адзначаных у тэксце. Вось, напрыклад, абзац ліста Троцкаму. Купюра, вырваная ў ПСС, т. 51, с. 68, намі падкрэсленая: „Если наступление начато, нельзя ли мобилизовать еще тысяч 20 питерских рабочих **плюс тысяч 10 буржуев, поставить позади их пулеметы, расстрелять несколько сот** и добиться настоящего масового напора на Юденича?"

Неабмежаваныя паўнамоцтвы атрымала ЧК — яшчэ адно ўвасабленне антычалавечых фантазий бальшавіцкага правадыра. Пачаўся такі гвалт, у такіх маштабах, якіх дагэтуль яшчэ не бачыў свет. Забівалі ўсіх — старых і малых, мужчын і цяжарных жанчын. Забойствы сталі бытавой з'явай, вар'яцкай нормай жахлівай рэчаіснасці.

*Працяг будзе.*

**ЗЯНОН ПАЗНЯК,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук, народны дэпутат Беларусі.**

## КАБ ВЫКЛІКАЦЬ ЗАЦЯЖНЫ ДОЖДЖ...

...трэба напісаць перадавіцу ў „Ніву" пра засуху. Пасля натужлівай разумовай працы — асабліва невыноснай у спякотны дзень — можаш нарэшце, з пачуццём споўненага абавязку, выгодна рассесціся ў мяккім крэсле і наліць сабе шклянку схаладжанай мінералкі. Пакуль вып'еш — няспешна, малымі глыткамі — свой напой, неба закрыюць цяжкія чорныя хмары. Сонца не пабачыш ужо прынамсі на працягу паўтара тыдня, да часу выхаду газеты з тваім артыкулам.

Дакладна так было ў маім выпадку. Пасля незвычайна гарачых дзён у маі і ў першай палове чэрвеня, надвор'е рэзка змянілася. Калі 25 чэрвеня з'явілася ў кіёсках „Ніва" з матэрыялам „Суха!" на першай старонцы, увесь дзень ліў дождж. Да таго яшчэ моцна пахаладзела. Уяўляю сабе злосныя — пэўна нецэнзурныя — заўвагі наконт маёй ацэнкі сенакосаў з вуснаў тых гаспадароў, у каго гніла ў гэты час скошаная трава.

Ну што ж, ім я магу выказаць толькі словы спачування. І заадно абяцаць, ніколі не адгадваць надвор'я на будучыню. Як то кажуць, „не хвалі дня..." і г. д.

Але ўсё-ткі цікава, як будзе на двары, калі ў „Ніве" з'явіцца гэтая зацемка.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## ЯК „КРАСУНІ" Ў СОПАТ НЕ ПАЕХАЛІ

Элімінацыі да Фестывалю ўкраінскай культуры арганізаваў таксама ў Бельску Саюз украінцаў Підляшша. У іх выніку да цэнтральнага агляду былі вылучаны сем калектываў з Беласточчыны, між іншымі, „Красуні" з Краснага Сяла.

Фестываль у Сопаце праходзіў 26 і 27 чэрвеня. У нядзелю 27 чэрвеня „Красуні" спявалі ў амфітэатры... у Беластоку, на Свяце беларускай культуры. Чаму не паехалі яны на мора?

Непасрэднай прычынай стала форма запрашэння, якое прыйшло да кіраўніка калектыву, Валянціны Марціновіч (копію друкуем побач). Гэта дасканалы прыклад афіцыйнай карэспандэнцыі! Аўтары ліста не палічылі вартым разборліва падпісацца, ані паінфармаваць, якую арганізацыю прадстаўляюць, але, затое, адчулі поўнае права вызначаць, хто член калектыву, а хто не.

Ліст быў дасланы з Бельска, у канверце — як кажуць жанчыны з Краснага Сяла — арганізацыйным Саюза ўкраінцаў Підляшша. Чаму аўтарам ліста не спадабаўся Сцяпан Копа? Дык ён жа з Маліннік, што на поўдзень ад Бельска, а гэта ж не горшая „ўкраінская" вёска ад Краснага Сяла. Апошнім часам слухачам радыёперадачы Яўгена Рыжыка „Украінская думка" Маліннікі наогул могуць явіцца як цэнтр украінскасці ў нас.

— *Сцёпа казаў нам ехаць без яго,* — гавораць „Красуні", — *але мы на такую трактоўку калектыву не пагаджаемся. Сцёпа гэта наш інструктар, быў рэжысёрам нашых „Хрысцін", як жа мы маглі ехаць без яго. Зрэшты, хто дазволіў гэтым панам, якія нават не прыводзяць сваіх прозвішчаў, рашаць за нас справу членства ў калектыве?*

Валянціна Марціновіч расказвае: *Як два гады таму прыехалі да нас Яўген Рыжык і Юры Ігнацюк і прасілі, каб мы прынялі калектыў з Украіны — 20 асоб — тады мы ўсе былі добрыя. Прыехала іх не 20, а 30 чалавек, ну што было рабіць, мы і гэты дадатковы дзесятак прынялі, якс'ці ж па-людску з гасцямі трэба абыходзіцца. А цяпер нас пачынаюць дзяліць, маўляў, адны добрыя, а іншыя — дрэнныя. Я ім яшчэ адказ дам, нават на машынцы, хаця яшчэ ніколі на ёй не пісала.*

Вось так жыхаркі Краснага Сяла не паехалі ў Сопат. Шкадавалі аднаго — шпацыру па славутым моле.

**М.В.**

Szanowna Pani !.

Organizatorzy festiwalu ,który odbędzie się w Sopocie 26-27-VI-93r p o w i a d a m i a j ą, że wyjazd zespołu nastąpi 24-VI-93r autokarem organizatorów,około godziny $19^{00}$.

Jednocześnie zawiadamia się,że Pan Kopa Stefan nie jest ujęty na listę uczestników ,nie jest członkiem zespołu jego wyjazd nie jest brany pod uwagę.O powyższym proszę powiadomić Wasz Zespół oraz S.Kopę.

Z poważaniem -

04. 06. 1993 г.

P.S. Юры Ігнацюк, старшыня Саюза украінцаў Підляшша, сказаў: *Я не ведаю, хто мог быць аўтарам гэтага ліста, напэўна не прадстаўляе ён афіцыйнай пазіцыі СУП, бо тады мусіў бы прайсці праз мае рукі. Але здзіўляе мяне тое, што Сцяпан Копа меў якоесьці дачыненне да калектыву з Краснага Сяла.*

# СВЯТЫЯ АПОСТАЛЫ ПЁТР І ПАВЕЛ

Займаюць яны першае месца сярод іншых Апосталаў з увагі на асаблівыя заслугі ў распаўсюджванні Хрыстовай навукі і на моцную непахісную веру.

**Апостал Пётр** быў братам апостала Андрэя, з якім займаўся рыбацтвам. Да свайго прызвання называўся ён Сімон, а потым за сваю цвёрдую веру атрымаў імя Кіф, па-грэцку Пётр, што значыць камень. Быў адным з самых шчырых вучняў Хрыста. Многімі фактамі пацвердзіў ён сваю прывязанасць к Госпаду. Быў удзельнікам і сведкам (супольна з Якавам і Іаанам) шматлікіх цудаў (уваскрашэнне дачкі Іаіра) і самых вялікіх здарэнняў зямнога жыцця Хрыста (Праабражэнне Гасподняе). Пасля Уваскрашэння быў ён паўторна вернуты Збавіцелем у апостальства. Да канца сваіх дзён захаваў цвёрдую, як камень, непахісную веру ў Хрыста. У першую чаргу быў ён апосталам яўрэяў і прапаведаваў у сінагогах Палесціны, Сірыі, Егіпта і Малой Азіі. Моц сваіх слоў даказваў многімі цудамі аздараўлення і ўваскрашэння памерлых. Пётр не меў першынства ўлады над іншымі апосталамі, было гэта ўсяго толькі першынство пашаны за апостальскія заслугі. Справы Царквы даручаў ён Сабору. На місійную дзейнасць быў ён пасланы так як і іншыя (Дз. Ап. 8, 14). Быў ён адной з апораў царквы, але не самай першай і найважнейшай (Гал. 2, 7—9). Тэза Рымска-каталіцкага касцёла, што быццам бы Пётр у 42—67 гадах быў першым епіскапам Рыма, не вытрымлівае крытыкі.



**Апостал Павел** нарадзіўся ў Тарсе ў сям'і фарысея. У яго былі два імёны, як тады, пры рымскім панаванні, часта практыкавалася: яўрэйскае Саул (здабыты, выклапатаны) і грэцкае Павел (малы). З юнацтва быў ён прыхільнікам секты фарысеяў і шчыра праследаваў хрысціян. Падчас аднаго са сваіх антыхрысціянскіх падарожжаў, на дарозе ў Дамаск быў прызваны самім Хрыстом, неўзабаве прыняў хрышчэнне ад апостала Ананія і з той пары стаў шчырым прапаведнікам Евангелля (Дз. Ап. 9, 3—30).

Быў ён, перш за ўсё апосталам паганаў (Аравія, Палесціна, Малая Азія, Грэцыя, Італія і іншыя краіны). Перанёс многія здзекі, але за гэта Гасподзь даў яму ласку бачыць шматлікія аб'яўленні, быў, між іншым, забраны ў рай і на трэцяе неба (2 Кар., 12, 1—14). Паводле Св. Іаана Златавуста: „больш за прапаведаваныя словы шукаў знявагі, чым пашаны, смутку больш, чым мы радасці, а смерці больш, чым жыцця". Баяўся толькі аднаго, каб не зграшыць супраць Бога. Смела можна сказаць, што быў ён апосталам, які найбольш заслужыўся для імя Хрыста. Адбыў ён тры місійныя падарожжы і напісаў 14 Саборных Пасланняў, якія ўваходзяць у састаў Новага Завету.

У набажэнстве гэтага дня Царква ўсхваляе іх як „прыяцеляў Хрыста", „нябесных давераных дарадчыкаў", „рэкі ўсямудрасці", „прапаведнікаў боскіх Хрыстовых навукаў і пакутаў", „вучняў Хрыста, сапраўдныя апоры і сцены", „верх апосталаў".

Абодва загінулі яны ў Рыме пры Нероне праўдападобна між 64 і 69 гадамі. Пятра распялі галавой уніз, у знак сваёй нягоднасці, і загінуў ён як Хрыстос. Паўлу галаву знялі мячом.

С.Н.

# ВЫБАР КАШТОЎНАСЦЯЎ

У пятую нядзелю пасля Пяцідзесятніцы чытаецца ўрывак з 8-га раздзела Евангелля паводле Мацвея. У ім чытаем пра аздараўленне апантаных людзей. Нячыстых духаў выгнаных з гэтых няшчасных Хрыстос пасяліў у гурт свіней, якія кінуліся „ з кручы ў мора і патанулі ў ім". Жыхары горада, пашкадаваўшы страты, прасілі Ісуса „каб адышоў ад межаў іх". Яны не разумелі, што страта маёмасці была ласкай аказанай уласнікам, бо паглыналі іх выключна матэрыяльныя клопаты, не пакідаючы месца духоўным. Хрыстос хацеў перaадолець гэты стан плыткага эгаізму, аднак блізарукая карысць узяла верх над вышэйшымі пачуццямі.

Згаданы фрагмент Евангелля звяртае ўвагу на справу выбару паміж матэрыяльнай і духовай карысцю. Звычайна, чалавеку бліжэйшае тое, што больш рэальнае, больш нагляднае і хутчэй адчувальнае. Тым часам духоўная карысць можа быць не адразу адчувальнай. Яна гучыць абстрактна. Тым не менш, перад гэтакім выбарам чалавек стае шмат разоў у жыцці. Калі выбірае прафесію, мае выбар паміж прэстыжнай і даходнай і такой, якая дае задавальненне, якую любіцца. Проста, не раз у сваім жыцці чалавек вымушаны выбіраць паміж голасам сэрца і розумам, паміж пачуццямі і халодным разлікам.

Перад выбарам паміж уяўнай выгадай і пакутніцтвам стаяў Апостал Пётр. Хто не памятае таго незабыўнага эпізоду з кніжкі Сянкевіча „Quo vadis?", калі падчас жорсткіх праследаванняў у Рыме Пятра намовілі ўцякаць і ратаваць сваё жыццё. За горадам яснае воблака, быццам сонца, наблізілася да Пятра і той прамовіў да чалавека-здані: „Куды ідзеш, Пане?" „Іду ў Рым, каб другі раз мяне ўкрыжавалі" — гучэў адказ. Апостал усё зразумеў і ў адну хвіліну прыняў пастанову. Вярнуўся ў Рым і неўзабаве быў замучаны — павешаны на крыжы галавой уніз...

Аб тым, што людзі часцей мараць пра багацце, чымсьці хацелі б быць, напрыклад, разумнымі, ведаем усе самі па сабе. Дарэчы, на недахоп розуму яшчэ ніхто не скардзіўся. Хрыстос вучыў, што насуперак чалавечым меркаванням, сапраўдная мэта жыцця ў Богу, а кароткае, зямное жыццё мае сэнс толькі ў перспектыве вечнасці. „Ты стварыў нас, Божа, для Сябе і неспакойныя сэрцы нашыя не супакояцца ў Табе" — са смуткам пісаў блажэнны Аўгусцін. Як кінуты ўверх камень вяртаецца на зямлю, гэтак і душа імкнецца назад — да Тварца.

У жыцці можам заўсёды выбіраць, аднак не заўсёды выбіраем тое, што служыць нашаму сапраўднаму дабру. Неаднойчы дасягнуўшы сваіх дробязных мэтаў сцвярджаем, што мы памыліліся, што не гэта нам было патрэбнае. „Калі б я тады меў цяперашні розум, напэўна паступіў бы інакш" — думае амаль кожны, успамінаючы свае памылкі. Не адзін гатовы змяніць летняе цяпло на студзеньскі мароз, але... дваццаць гадоў раней. Проста мала хто задаволены сваім жыццём; калі б мог — не адно паправіў бы ў ім...

Як жа павучальнае ў гэтым сэнсе жыццё і канчына Святога Іаана Залатавуста. Бескампрамісны змагар за чысціню веры і нораваў, пазбаўлены архірэйскай кафедры, хворы і зняважаны прымітыўнымы жаўнерамі, паміраў на выгнанні недзе каля Каўказа і ягонымі апошнімі словамі былі: „Дзякую Табе, Божа, за ўсё". Ён не скардзіўся на свой лёс і не шкадаваў таго, што зрабіў... Зусім іншай была канчына Емяльяна Яраслаўскага. Гэты партыйны дзеяч і рэвалюцыянер напісаў мноства працаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху. Ён маніякальна высмейваў і апаганьваў рэлігію ў сваіх шматлікіх бязбожных творах. Аднак паміраючы, гэты блюзнер благаў Сталіна: „Спалі ўсе мае кніжкі... Глядзі, Бог тут... Ён чакаў мяне... спалі ўсе мае кніжкі..."

Магчыма, што мы ніколі не будзем стаяць перад нейкім драматычным выбарам. Затое пытанне, як жыць, каб пражыць і не шкадаваць гэтага, тычыцца ўсіх нас.

а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК

# ПАЛОМНІЦТВА Ў ЖЫРОВІЧЫ

З благаслаўлення мітрапаліта Філарэта ў Беларусі адбылося першае паломніцтва праваслаўнай моладзі. Упершыню з ваенных часоў групка моладзі з крыжам прайшла ад Гродна да Жыровіч. Паломніцтва было афіцыяльна зарэгістраванае ў Гродзенскім аблвыканкаме.

15 мая, памаліўшыся ў Гродзенскім кафедральным саборы, пяць чалавек моладзі рушылі да Жыровіч. Шлях пралягаў праз Скідаль, Масты, Ваўкавыск, Зэльву, Сынкавічы і Слонім.

Па-рознаму сустракалі першых паломнікаў. Але часцей за ўсё з радасцю і слязамі. Сустракаліся людзі, якія самі бралі ўдзел у паломніцтвах у маленстве, памятаюць пра іх. Некаторыя былі на Беласточчыне ў час перанясення мошчаў Св. Гаўрыла Заблудаўскага. Надзвычай цёплы прыём быў у Зэльве, на радзіме славутай беларускі Ларысы Геніюш. Дарэчы, у час вячэры, каля царквы, мы пачулі столькі цёплых слоў аб ёй, людзі многа расказвалі, як Ларыса Геніюш дапамагала царкве, была актыўнай прыхаджанкай.




*У Зэльве на магіле Ларысы і Янкі Геніюшаў.*



*Жыровічы. Заканчэнне паломніцтва ля сцен манастыра.*

З Гродна выйшлі мы ўпяцёх, але ў гарадах, дзе праходзілі, да нас далучаліся хлопцы і дзяўчаты. У апошні дзень, 19 мая, у царкве горада Слоніма сустрэў нас а. Сергій Гардун. На роднай мове ён казаў прывітальнае слова, адслужыў малебен і, пасля нядоўгага снедання, з усім прыходам пайшлі мы ў манастыр.

На свята Жыровіцкай іконы Божай Маці ў манастыр прыехалі епіскапы Беларускай праваслаўнай царквы на чале з Экзархам усяе Беларусі мітрапалітам Філарэтам. Кожны паломнік прыняў благаславенне ад уладыкі. Мітрапаліт звярнуўся да нас з цёплымі словамі і пажадаў, каб свяча паломнікаў не згасла.

Наступнае паломніцтва плануецца на Успенне. Пачатак 22 жніўня, таксама з Гродна. Усіх жадаючых прыняць у ім удзел запрашаем. Звяртацца па адрасу: 220103 Менск, вул. Сядых 22, кв. 17.

ІГАР КОТАЎ

# ДЭКАНСПІРАЦЫЯ ПАКАЗУХІ

*Мода дыктуе стылі,*
*Часы дыктуюць нормы.*
*Не жыць устарэлай ідыліяй -*
*Яна для сучаснасці тормаз.*

*Сцяну не дзіравяць лобам,*
*Старыя формы гаснуць.*

*(...)*

*АЛЕСЬ БАРСКІ*
*(са зборніка "Белавежскія матывы", стар. 182)*

У апошнім часе, асабліва перад з'ездам, у выказваннях кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства наступіла заўважальная інтэнсіфікацыя ваяўнічай рыторыкі. Найбольш яркія яе фармулёўкі змяшчала "Ніва". З'езд, які на кіраўнічых пастах захаваў прыктычна тыя самыя асобы, што і былі там дагэтуль, здавалася б, нічога не змяніў і ў мяне асабіста выклікаў перакананне, што старое новае кіраўніцтва будзе надалей карыстацца ваяўнічымі эпітэтамі ў адносінах да іншадумцаў. І вось 6 чэрвеня Ул. Праховіч пусціў у эфір сваё інтэрв'ю з новым дзейсным старшынёю Галоўнага праўлення БГКТ Янам Сычэўскім, якое, не скрываю, было своеасаблівым сюрпрызам. Вельмі сумнай была гэтая размова. Спадар Сычэўскі сказаў, што Таварыства, як і ён сам асабіста, маюць сур'ёзныя клопаты: няма часу, няма сродкаў, няма актыву. Гаспадаранне часам - гэта асабістая справа сп. Сычэўскага. Сродкаў, праўда, амаль няма, але і некаторыя з тых, што яшчэ ёсць, сам сп. Сычэўскі зачыніў на замок, каб ніхто імі не пакарыстаўся (vide: камп'ютэры). Найважнейшым аднак у гэтым выказванні новага старшыні была заява, што няма актыву. Аб чым жа гэта сведчыць? Менавіта аб тым, што папярэднія заявы аб "масавасці" БГКТ былі звычайным пустаслоўем. Масавая арганізацыя павінна ўключаць і шырокі актыў, і маладыя рэзервы для яго папаўнення. Арганізацыі не стала ні аднаго, ні другога. Хто ж тады астаўся? Адказ на гэта дае нядаўні з'езд. Было на ім яшчэ некалькі ідэйных дэлегатаў, якія, аднак, не змаглі аказаць істотнага ўплыву на яго ход. Кіраўніцтва, рыхтуючы з'езд, пастаралася, каб туды не папала замнога заклапочаных актуальнай сітуацыяй, але нявыгадных яму, людзей, затое ж склікала нямала людзей абыякавых у адносінах да беларускай будучыні. Бо як можна вытлумачыць заклік аднаго з дэлегатаў "галасуйце "за", так будзе прыгажэй"? Гэта заклік да паказухі: важнае, каб галасаванне выглядала прыгожа на паперы, а што гэтым галасаваннем вырашаецца - пустая справа. Дзядзька гэты прадстаўляў на з'ездзе мусіць нейкія мёртвыя душы, бо не ўяўляю сабе, каб мог ён прадстаўляць нейкі жывы гутрок БГКТ. З назіранняў відавочцаў вынікае, што такіх "дэлегатаў" на з'ездзе было дастаткова, каб правесці з'езд "прыгожа". Гэта таксама дае нейкае ўяўленне так аб масавасці арганізацыі, як і аб рэпрэзентацыйнасці з'езда. Для чаго ж была патрэбна гэтая містыфікацыя? З'езд жа, калектыўнай мудрасцю яго ўдзельнікаў, павінен аднесціся да найважнейшых праблемаў дзейнасці арганізацыі. Такія супольныя прадуманыя адказныя рашэнні праграмнага характару патрэбны асабліва цяпер - у час бурлівых перамен навокал нас. Не для гэтага аднак быў патрэбны з'езд. Старшыня Баршчэўскі, хаця і заяўляў, што Таварыства развіваецца і квітнее, усё ж такі не мог не заўважыць, што па сутнасці яно развальваецца: траціць сядзібы, адышлі прыхільнікі ды пабольшала праціўнікаў. Яму з'езд быў, відаць, патрэбны толькі для таго, каб з "гонарам" пакінуць усё гэтае свайму вернаму да канца намесніку Я. Сычэўскаму. Дацаніў яго заслугі і прысутны на з'ездзе ганаровы госць, тадышні пасол у Сейм, В. Цімашэвіч, гаворачы "róbcie tak dalej". Каментарыем да гэтага выказвання хай паслужыць яўрэйскі анекдот:

Адзін яўрэй скардзіцца перад рабінам на другога. Рабін выслухаў яго ўважліва і сказаў:

- Маеш рацыю.

Неўзабаве з'явіўся абвінавачаны і ў сваю чаргу паскардзіўся на першага. Рабін выслухаў яго і сказаў:

- Маеш рацыю.

Жонка рабіна, якая падслухала абедзве размовы, гаворыць абурана мужу:

- Гэта немагчыма, каб абодва яны мелі рацыю!

На гэта вучоны рабін:

- І ты таксама маеш рацыю.

"Ніхто не мае манаполіі на рацыю" - так можна парафразаваць сентэнцыю, якую некалі меў выказаць сп. Сычэўскі, а датычыла яна праўды. Дарэчы, праўда і рацыя гэта амаль сінонімы. Агульна, гэтая канцэпцыя слушная: ніхто з нас, смертных, не ведае ўсёй праўды, але ў адносінах да канкрэтаў - пэўныя меркаванні аб'ектыўна праўдзівыя, іншыя - фальшывыя, часамі праўда бывае палавінчатая або і зусім размытая. Праўда можа быць адкрытая або закрытая, заканспіраваная і трэба яе дадумоўвацца. Канспіравалася апошнім часам дзейнасць БГКТ, а асабліва яго з'езд. На з'ездзе гэтым старшыня А. Баршчэўскі паставіў закід, што тым, якія апошнім часам прыйшлі ў "Ніву", здаецца, што ведаюць усю праўду. Адказваю за сябе, што я не знаю ўсяе праўды, але і нават і тая яе частка, якая магла б мяне зацікавіць, скрывалася кіраўніцтвам Таварыства.

Канспірацыя характэрная наогул не для культурнай дзейнасці, якою павінна займацца грамадска-культурнае таварыства, а для палітычнай. Палітыка - гэта кіраванне дзяржавай. Пры чым жа тут палітыка? Палітыка тут пры тым, што, на мой погляд, старшыня Баршчэўскі хацеў стварыць калісь сабе штосьці ў родзе міні-княства з падцэнзурнай сабе газетай-агіткай і паслухмянымі служыўцамі. Няшчасцем для БГКТ (ды і не толькі) з'яўляецца тое, што менавіта гэтую арганізацыю, якой стаў ён старшынёю, выбраў для здзяйснення сваёй задумы, а і ў самім Таварыстве не знайшлося даволі сіл, каб гэтаму супрацьдзейнічаць, затое знайшліся людзі, якія больш ці меней свядома яму дапамагалі. Многа працы ў гэтай галіне выканаў і сп. Сычэўскі. Стаўшы старшынёю, не вытрымаў, штосьці ў ім абарвалася і крыху праўды, так старанна дагэтуль скрыванай, выявіў. Можа, так як некалькі гадоў таму Гарбачоў, дайшоў да вываду, што надалей так нельга, што трэба штосьці змяніць, рэфармаваць. А можа прычына гэтаму не так патэтычная, а звычайная, празаічная. Вынікае яна з самога згаданага на пачатку выказвання новага старшыні: няма актыву. Не сакрэт, што арганізацыйную працу ў Таварыстве вялі практычна ўжо толькі некалькі асоб. Пакуль іхнім вазком кіраваў знакаміты вазак, яны паслухмяна і даверліва яго цягнулі. Калі ж вазак, бачачы, куды каляска коціцца, уцёк з яе, кінуўшы іх дапіваць піва, якое яны з такім энтузіязмам дапамагалі варыць, давялося ім самім адплюшчыць вочы і нават сказаць пра ўбачанае. Дадаць да гэтага яшчэ трэба і тое, што сп. Сычэўскі, прыйшоўшы на пасаду намесніка старшыні, забраўся з вялікай энергіяй да працы. Не шкадаваў ні сіл, ні часу, не заўважыў нават, ці гэтая дзейнасць на карысць асяроддзю, ці наадварот. І здаецца, што ён ужо з сіл выматаўся, а эфект такі, які відаць. Не выглядае і на тое, што ад з'езда-паказухі атрымаў ён нейкую мерытарычную дапамогу. Пад канец сваёй размовы новы старшыня ўспомніў пра магчымасць свайго адыходу. Трэба мець надзею, што не зробіць гэтага так, як зрабіў гэта яго ганаровы папярэднік, але крыху ўпарадкуе кавардак, да паўстання якога прыклаў ён і сваю руку. Сп. Сычэўскі вельмі балюча ўспрымае крытыку ў свой адрас, выпадае аднак спадзявацца, што грамадскі інтарэс возьме ў яго верх над асабістымі жалямі.

**А. ВЯРБІЦКІ**

P.S. Час не стаіць на месцы. Пасля напісання вышэй пададзенага тэксту дайшла да нас новая інфармацыя: камп'ютэры, якія ў мінулым годзе актывісты Таварыства забралі з рэдакцыі "Нівы" ў сядзібу ГП БГКТ, ноччу з 17 на 18 чэрвеня вынеслі з гэтай жа сядзібы зладзеі. Атрымалася нейкая, так бы мовіць, зладзейская эстафета. Пачын, якога даканалі год таму Я. Сычэўскі і яго знакамітая кампанія, выдатна адлюстраваў польскую прымаўку: "Na złość tacie zrobię w gacie".

"Róbcie tak dalej" - заклікаў на XII з'ездзе дзеячаў БГКТ Вл. Цімашэвіч.

**А. В.**

# „ЗАБОЙЦА ЖОНАК"

Жыў у адной вёсцы пан Андрэй. І празвалі яго „забойцам жонак", бо за ўсё жыццё было іх у Андрэя ажно чатыры, і ўсе памерлі ад пабояў.

— Дурань ты, дурань, — лаялі яго мужыкі, — хіба так трэба жыць з бабай? Баба таксама чалавек, яе шанаваць трэба!..

Андрэй нікога не слухаў. Да кожнае жонкі меў прэтэнзіі — маўляў, і прачынаецца запозна, і гатуе кепска, і апранаецца непрыгожа...

Паехаў ён аднаго разу ў Прусы. Пазнаёміўся там са Стасяй і, неўзабаве, ажаніўся ў чарговы раз. А Стася тая была жанчына мажная, ездзіла конна і выпіць гарэлкі магла больш за любога мужчыну.

Прыехалі маладыя ў Андрэеву вёску і пачалі гаспадарыць. Толькі з шлюбу жыццё „забойцы жонак" змянілася, і не ў лепшы бок. Не ён біў Стасю, а Стася яго. Як што не падабаецца — адразу распачынае бойку, бывала нават, што і да крыві.

Абрыдла Андрэю такое жыццё. Сабраўся ён аднаго разу і пайшоў да кума Яся — пагаварыць па-мужчынску пра свае справы.

— Парай мне, куме, — прасіў Андрэй, — як жыць далей. Яна мяне б'е, а я нават і адказаць не магу. Бо як тут адкажаш, калі яна наймацнейшая!

— Гэта табе пакаранне за тых чатырох жанчын, якіх ты закатаваў! — смеючыся, адказаў яму кум.

Андрэй усё часцей ездзіў да кума і скардзіўся на сваё жыццё. І вось, нарэшце, параіў Ясь, каб Андрэй кудынебудзь паехаў. Тады, маўляў, з'едзе і Стася, а Андрэй вернецца і будзе жыць у сваю радасць.

Андрэй так і зрабіў. Не было яго тыдзень. А Стася тым часам пачала прадаваць маёмасць. Прадала ўсё, што магла — і новую хату, і гаспадарчыя будынкі. Сяляне з навакольных вёсак іх ахвотна куплялі, бо будынкі тыя былі з добрага дрэва. Стася хацела прадаць нават зямлю, але ж не мела права зрабіць гэта без згоды мужа.

Сабрала Стася грошы і з'ехала невядома куды.

Праз некаторы час вярнуўся Андрэй. Бачыць — чыстае поле. Ані хаты, ані гаспадаркі.

Хацеў была судзіцца са Стасяй, але потым раздумаў, бо забаяўся, што вернецца жонка і зноўкі пачне яго лупцаваць.

Збудаваў Андрэй невялічкую хатку, і пасяліўся там. Зямлю ж сваю аддаў у арэнду суседзям за харчы і дровы. Так і дажыў „забойца жонак" да смерці.

**АЎРОРА**




# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

**Частка III**

Калі мы дайшлі да сцвярджэння, што ўсякі народ мае не толькі права але і абавязак дбаць пра сваю бяспеку, дык, зразумела, такое права мусім даць і беларускаму народу. Справа, аднак, у тым, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, прымаючы пастанову аб уступленні ў вайсковы саюз з Расіяй не ўзяў пад увагу волі беларускага народа. Такая воля магла б быць выяўлена толькі ў рэферэндуме, які не адбыўся і Бог ведае ці будзе праведзены ў будучым.

Мне асабіста здаецца, што ўступленне Беларусі ў вайсковы саюз з Расіяй не ўмоцніць, а толькі аслабіць бяспеку Беларусі. Чаму? Таму, што Расія — гэта дзяржава, якая складаецца са ста народаў. Народы гэтыя на працягу стагоддзяў шаблямі, штыкамі і кулямі заганяліся ў адну дзяржаву. Дзякуючы гэтаму руская дзяржава мае штучны і, на маю думку, нетрывалы характар. Няма сумненняў, што загнаныя сілаю ў склад рускай дзяржавы народы хутчэй ці пазней запрагнуць стаць самастойнымі. Рэалізацыя гэтай самастойнасці будзе абазначаць распад Расіі. Зразумела, што рускі вялікадзяржаўны дух ніколі не пагодзіцца з такой эвалюцыяй сітуацыі. Аднак у канцы канцоў мусіць уступіць пад напорам сілы гэтых ста народаў. Зрэшты, працэс ужо распачаўся. Распад СССР з'яўляецца доказам на гэта. Узнікненне самастойных дзяржаў на базе ўсіх саюзных рэспублік не абазначае канца гэтага працэсу. Справа ў тым, што сённяшняя Расія не будзе ў стане ўтрымаць у сваім нутры тых нацыянальнасцей, якія напэўна захочуць скарыстаць з прыкладу тых народаў, якія выйшлі з Савецкага Саюза. Некаторыя з гэтых нацыянальнасцяў ужо сёння моцна акцэнтуюць сваю волю і імкнуцца да самастойнай дзяржаўнасці. Прыкладам можа быць Чэчэнія, якая ўжо насуперак волі Расіі ўтварыла самастойную дзяржаву, а таксама Татарыя, Вярхоўны Савет якой прыняў пастанову аб незалежнасці. Узнікае пытанне: як захавацца Расія, калі „сто народаў" Сібіры пойдзе ў след за Чэчэніяй, Татарыяй? Не можам сумнявацца, што такія „разводы" без боек і крыві не абыдуцца. Расія можа быць уцягнута ў доўгатрывалыя войны з самой сабою. Зразумела, што руская армія прыме ў гэтых падзеях актыўны ўдзел. І адкуль мы ведаем, што руская дзяржава, знайшоўшыся ў агоніі, не запатрабуе дапамогі ад саюзнай беларускай арміі. Паўторыцца трагедыя з нядаўняга мінулага. Маю на думцы Афганістан, у якім ваявалі сыны Беларусі, якая адлеглая ад Афганістана на тысячы кіламетраў. Тут таксама дзейнічаў прынцып вайсковага саюзу. У Беларусі і сёння жывуць у бядзе і нястачы тысячы інвалідаў афганскай вайны. Па сутнасці, гэтых няшчасных людзей павінна сёння ўтрымліваць не Беларусь, а толькі Расія, якая рэалізавала ў Афганістане свае імперскія інтарэсы, а не інтарэсы Беларусі.

У будучым на тэрыторыі сённяшняй Расіі можа выбухнуць не адзін, але дзесяткі „афганістанаў" і ў кожны з іх могуць быць уцягнуты зноў беларусы. Імкнучыся пазбегнуць такой сітуацыі, Беларуская дзяржава павінна зрабіць сёння ўсё, каб не знайсціся ў бядзе заўтра.

Мне здаецца, што вайсковы саюз з Расіяй не толькі не аддаляе Беларусь ад трагічнай магчымасці, але наадварот, да такой магчымасці набліжае.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*МІРА ЛУКША*

## КУРКА НЮРКА

Курка Нюрка,
Гаспадыня на падворку,
Ў шапачцы чырвонай
Гарадзіла агарод,
Сеяла радыску,
Гаспадарыла.

Курка Нюрка
Памагала бабцы Юльцы,
Ў хустачцы чырвонай
Палівала агарод,
Асыпала бульбу,
Гаспадарыла.

Курка Нюрка
Збіралася да Мікіты,
Ў каралях чырвоных:
Замясіла каравай,
Наварыла піва,
Гаспадарыла.

Курка Нюрка
Апранула белу бурку
З гузікам чырвоным,
Прыхапіла каравай
І пабегла ў госці,
Гаспадынька Нюрка -
Ў белай бурцы,
Ў чырвоных каралях,
Курка Нюрка,
Курка Нюрка!

## ЧАЛАВЕК З ГОТАМА

*АНГЛІЙСКАЯ КАЗКА*

Са спрадвечных часоў жыхары горада Готам лічыліся вельмі разумнымі.

Аднойчы чалавек з Готама паехаў у суседні горад, каб прадаць на кірмашы сыры. Калі ён заехаў на ўзгорак, кола яго вазка трапіла на камень. Вазок нахіліўся і адзін сыр выпаў. Гандляр не паспеў схапіць сыр, і той пакаціўся ўніз да горада. Праз якую хвіліну яго было ўжо не відаць.

- Ну, ну. Дык ты сам ведаеш шлях на кірмаш. Тады я і астатнія сыры пашлю за табой, - сказаў чалавек і пачаў каціць сыры ўніз. - Але не забудзьцеся пачакаць на мяне на рынку, - крыкнуў, калі спусціў уніз апошні сыр. Потым шчаслівы ўлегцы пайшоў да горада.

Але калі ён прыйшоў на рынак, сыроў там яшчэ не было. Яны не з'явіліся і ўвечары, калі кірмаш ужо канчаўся. Толькі тады чалавек пачаў пытацца сяброў, ці не бачылі яны ягоныя сыры.

- А як яны маглі тут апынуцца? - спыталіся сябры.

- Самі павінны прыкаціцца, чорт бы іх узяў, - сказаў чалавек. - Яны лепш за мяне ведаюць шлях сюды.

Тут ён пляснуў сябе далонню па ілбе і сказаў:

- Вядома ж! Як я адразу не зразумеў! Яны каціліся з узгорка надта хутка, не здолелі затрымацца на рынку і пакаціліся далей. Пэўна, зараз яны ў іншым горадзе.

Чалавек з Готама купіў каня і паехаў шукаць свае сыры. Ён яшчэ не вярнуўся, і я думаю, што ён усё яшчэ шукае іх.

*Пераклаў Алесь Кудраўцаў*



*На пляжы ў Нараўцы.* **Фота Я. Целушэцкага**

## НАШЫ ГАЛУБЫ

Я некалькі дзён не быў у горадзе. Гаспадарылі дома бабуля Аксана і ўнук наш Аркадзь. Унук, як толькі я ўвайшоў і распрануўся, хапіў мяне за руку і павёў да балконных дзвярэй.

- Вунь паглядзі, дзядуля, - паказаў ён у куток балкона.

Я адчыніў дзверы, бо на дварэ было цёпла, якраз перад гэтым стаяла ледзь не жнівеньская гарачыня.

Унук першы выйшаў на балкон. Я прыглядзеўся. У левым кутку, на трэсках і падсцілцы з пер'я, варушыўся шэры камячок. Побач ляжала невялікае яйка, валяліся шкарлупінкі ад другога яйка. Я зразумеў, што адбываецца, і сказаў унуку:

- Гэта, Аркадзь, выводзяцца галубкі. Трэба нам быць асцярожнымі, а то спалохаем - і зваліцца малы з чацвёртага паверха, разаб'ецца.

Аркадзь адразу адступіў ад птушаняці і падаўся да дзвярэй.

А потым мы разам накрышылі хлеба, налілі ў сподачак вады і ўсё гэта паставілі недалёка ад гнязда. Дзверы ціхенька зачынілі.

Назаўтра раніцай Аркадзь падбег да балконных дзвярэй. Пачуўся яго ўзрадаваны вокліч:

- Глядзі, другі з'явіўся!

Паглядзеў я ў куток балкона. Каля нашага гасцінца ўвіхалася галубка-маці.

Спяшаючыся, яна сілкавалася сама, а потым набірала ў дзюбку хлебных крошак і карміла птушанят. Тыя ажно трымцелі, відаць, вельмі хацелі есці.

Кожны вечар мы з Аркадзем асцярожна адчынялі балконныя дзверы і ставілі птушанятам наедак і ваду.

Прайшоў мо які тыдзень. Неяк раніцай унук зноў паклікаў мяне на балкон. Вачамі паказаў у куток, дзе сядзелі ўпрытык адзін да аднаго апераныя птушаняты.

- Ты задаволены? - спытаў я.

Аркадзь адказаў:

- Яшчэ б! Гэта ж нашы галубы, праўда?

- Праўда, унучак.

**ПАВЕЛ КАВАЛЁЎ**

## ДУПЛЯНАЧКА

Дзьмуў лёгкі веснавы ветрык. Бяроза, пад якой я сядзеў, тонка звінела крыштальным звонам.

Учора прайшоў першы дождж. А ночу падмарозіла. І дажджавыя кроплі на галінках ператварыліся ў ільдзінкі. Яны біліся адна аб адну і звінелі.

Слухаючы крыштальны звон над галавой, я агледзеўся. Справа ад сябе ўбачыў струхлелую асінку, а ў ёй - дупельца.

Цёмны хвосцік то знікаў у дупельцы, то зноў паказваўся. На зямлю пад асінку сыпалася жоўтая пацяруха.

Вось яно што! Аказваецца, нехта сабе дом будуе. Але хто? Якая птушка можа выдзеўбці дупельца, у якое з цяжкасцю два пальцы прасунеш?

Я падышоў бліжэй, падняў з зямлі сучок і кінуў у асінку. Кінуў, а сам за елачку схаваўся.

Хвосцік імгненна знік. З дупельца выпырхнула птушачка. Села на галінку і спалохана зацінькала.

Гляджу: сініца-гаечка!

Вось ужо не думаў, што сініца цяслярскай справай займаецца. Дзяцел - вялікі, дзюба ў яго моцная - сапраўднае долата. А гэта дупляначка сама з арэх, дзюбка слабенькая, тонкая, як шыльца. Аднак таксама ў лясныя цесляры наймалася.

Я ціха адышоў ад асінкі, каб не перашкаджаць птушачцы працаваць.

**РЫГОР ІГНАЦЕНКА**



## Вершы Віктара Шведа

### МАЮ ДЗВЕ НОЖКІ

Безупынку скача з ложка
Доня ранкам на падлогу.
- Перастань, бо зломіш ножку, -
Тата даў перасцярогу.
Усміхнулася Ганулька,
Тату добрага пытае:
- А каторую, татулька?
Глянь жа, я дзве ножкі маю.

### БЫЎ БЫ ТВАІМ БАЦЬКАМ!

Запытаў татулька Колю:
- Што новага ў школе?
- Наш суровы матэматык
Зайздросціць табе, тата.
- Чаго зайздросціць мне, старому?
- Дык мяне, вядома.
За вуха ўзяў мяне знянацку
І кажа: - Быў бы тваім бацькам!

### СКЛАДАНАЯ СІТУАЦЫЯ

Запытала раптам маці
Сыночка Ігната:
- Каго хацеў бы мець у хаце:
Сястрычку, ці брата?
І адказ ад свайго сына
Пачула суровы:
- А што зробіш, як адкіну
Тваё прапановы?

### ХТО АМЕРЫКУ АДКРЫЎ?

Бацька зноў стаў наракаць:
- Вучань ты лянівы.
Не дазволю аглядаць
Фільмы-дэтэктывы.
Каб не выскачыў на здзіў
Больш з такою "бомбай",
Што Амерыку адкрыў
Паручнік Каломба!

### ЗРАБІЎ БРАТА ВІНАВАТЫМ

Скардзіцца матулі Ваня:
- Неслухмяны брат мой, Вова,
Пісаў сёння на паркане
Брыдкія надзвычай словы.
- Ты яму памог таксама,
Хуліган і непаседа!
- Памагаць не мог я, мама,
Захапіў маю ён крэйду!..

### ГАЛАВА ВЫШЭЙ ВАЛОС

- Ты расцеш, мой татусёк,
Гэта праўда, не дзівота?..
- Не расту ўжо я, сынок,
Не расказвай мне дурноты.
- Бачу я, што ты падрос, -
Запярэчыў тату Вася. -
Галава вышэй валос
У цябе цяпер знайшлася.

### ПУСТЫ ЖЫВОТ І ГАЛАВА

- Страшэнна мне жывот
Баліць, - азваўся Фома.
- Вазьмі, брат, нешта ў рот,
Жывот пусты, вядома.
- Даведаўся дык я, -
Пацвердзіў Фома смела, -
Чаму ўчора табе
Галава балела.

### МАМА З ТАТАМ РАЗМАЎЛЯЕ

- Ты ўжо вярнуўся
З працы, татка мілы?
Да цябе мамуся
Нядаўна званіла.
Сядзіць у пакоі,
Мама дарагая,
І далей з табою
Яшчэ размаўляе.

### СТРАШНЫ СОН

- Страшны ўчора
Сон прысніўся,
Што я ў моры
Утапіўся.
Што рабіць мне,
Мілы Слава?
- Навучыцца
Трэба плаваць.

### КОЛЬКІ ВОЧАК?

Пахваліўся ў школе
Перад класам Мірак,
Што ўсё аб футболе
Вывучыў ён шчыра.
- Калі ведаць хочаш
Аб футболе ўсё ты,
Скажы, колькі вочак
Ў сетцы у варотах?

# НАШЫ АДЗІНОКІЯ СТАРЫЯ
## - 4 -

Ніхто не ўмее так чакаць, як бацькі. Пісьма ці якой-небудзь звесткі... Як ён там, іх сын? А сын маўчыць. Сыну няма калі. Ён заняты. У яго больш важныя справы, чым паведаміць аб сваім здароўі маме. На ўсё ён знойдзе час: купіць кветкі дзяўчыне, пабываць на чарговым матчы, сустрэцца з "патрэбнымі" людзьмі. Не падбярэ толькі паўгадзіны, каб напісаць тым, каму ён больш за ўсё патрэбен сам.

Часам старыя бываюць, як кажуць, нязноснымі. Што, аднак, не ўплывае на адносіны да іх дзяцей. Аляксандр Крон у рамане "Бяссонніца" даў жывы партрэт такога старога. Той быў не толькі стары, але і хворы склярозам. Аднак дзеці яго ахвяравалі сваімі забавамі, вольным часам, каб аблягчыць адзіноту бацькі, стараліся выканаць усе яго капрызы, разумеючы, што яны - праявы хваробы. "Дзеці добрыя, уважлівыя, значыць, заслужыў ён у іх..." - тлумачыць суседка.

Добра, калі блізкія разумеюць душэўны стан старога чалавека і дапамагаюць яму адчуваць сваё дачыненне да актыўнага жыцця. Але такое разуменне не прыходзіць само па сабе, а складваецца, дзень за днём. Адносіны да старасці - гэта выпрабаванне сям'і на чалавечнасць. Гэта паказчык яе духоўнасці.

Ёсць нешта непараўнальна большае, чым узаемныя крыўды паміж бацькамі і дзецьмі. Гэта - вечны і неаплатны доўг дзяцей перад сваімі бацькамі. Сіла гэтага доўгу здольна падняць дзяцей над любымі крыўдамі, таму што ні ў кога з нас няма на свеце нікога даражэй, чым маці і бацька.

Наша мараль абараняе старасць ад чэрствасці, няўдзячнасці, эгаізму. Мы сурова ганьбім дзяцей, не дапамагаючых матэрыяльна старым бацькам. Аднак намнога больш важная і неабходная тут дапамога маральная. А яна вельмі простая: быць шчырым з бацькамі, цярпліва выслухоўваць...

Старэчая адзінота - як дакор нашай няўвазе, нашай празмернай занятасці. Мы нясёмся ўперад у рытме нашага сённяшняга жыцця. Яны, нашы старыя, не паспяваюць за намі. Не пакінуць іх - наш абавязак.

Маладыя павінны вучыцца майстэрству жыць у сям'і з рознымі пакаленнямі, калі прыходзіцца звяртацца да бабуль і дзядуль за дапамогай, карыстацца іх паслугамі. Ім патрэбна ведаць, з чым яны могуць сутыкнуцца і як абыходзіць немінучыя вострыя вуглы. Галоўнае - навучыцца міласэрнасці, быць больш добрымі адзін да аднаго, больш цярплівымі, асцярожнымі. Не спяшацца абвастрыць нейкую сітуацыю, не раздзьмухаць пажар, а насупраць, разам старацца ў самым зародку патушыць небяспечныя іскры. У гэтым, напэўна, усё-такі больш мудрасці, чым у тым, каб шукаць, хто вінаваты, а хто не.

Маладыя нярэдка забываюць, а можа, і зусім не задумваюцца над тым, што ў чалавечых узаемаадносінах ёсць моманты, калі трэба ўмець быць паблажлівымі, умець даруваць, зразумець, у рэшце рэшт.

У жыцці бывае многа складаных сітуацый. Але ключ да ўсіх гэтых сітуацый - цэннасць чалавека і дабрыня ў адносінах паміж людзьмі. Не могуць быць шчаслівымі маладыя, калі побач па іх віне, ад іх жорсткасці пакутуюць блізкія людзі. Калі старыя чалавек ужо фізічна пры ўсім жаданні не можа быць карысным для акружаючых, сваіх блізкіх - адмаўляюць ногі, зрок, памяць - вось тут і праяўляецца сапраўдная цана сваяцкіх адносін, тут правяраецца сумленне.

У народзе здаўна зляжылася панцце, што інтэлігентны чалавек не толькі адукаваны, але і прыстойны. Спагадлівы і добры. Чалавек, які ўнушае да сябе павагу акружаючых сваімі ўчынкамі і сваёй маральнай пазіцыяй. Калі аднаго палдетка спыталі: чаму ён рашыў прысвяціць сваё жыццё медыцыне, то ён, не задумоўваючыся, адказаў: "Людзей люблю. Асабліва старых. Бездапаможнасць кранае". Вось гэты чалавек не пакіне ў бядзе ні сваю бабулю, ні чужую.

Спакон веку пакаленні людзей выхоўваліся на павазе да старасці. Кроўныя сувязі паміж сваякамі - тая маральная аснова, на якой вырастаюць грамадзянскія патрыятычныя пачуцці. Колькі можна набыць чалавечага цяпла, колькі здзіўляючага адкрыць у тых, хто цесна звязаны з табой роднасцю.

Наш народ заўсёды ў роднасці чэрпаў уцеху і падтрымку, сілу і надзею. У гады цяжкіх выпрабаванняў памяць аб блізкіх, вера ў духоўную роднасць рабілі людзей яшчэ больш стойкімі, мужнымі. Забыць аб гэтым - значыць абядніць свой унутраны мір. Наша роднасць - гэта наша духоўнае багацце, якое напаўняе наш унутраны мір, робіць нас людзьмі.

**В. БАЛЦЭВІЧ,**
**Л. ГАРБАЦЕНКАВА**

## ПЯРЭВАРАЦЕНЬ

*ЭСТОНСКАЯ КАЗКА*

Сядзяць селянін з жонкаю на ўскрайку балота пад капою сена і снедаюць. А воўк ля капы, як шчаня, хвастом віляе і вачэй не зводзіць з кавалка хлеба.

Думае селянін: "Жахну яго касою па галаве!" - і глядзіць на касу. Потым перадумаў: "А якая мне з гэтага карысць?"

Узяў і падаў воўку на канцы паляўнічага нажа кавалак хлеба. Схапіў воўк хлеб разам з нажом і знік у лесе.

- Вось бяда, знёс мой нож, чым я цяпер кассё буду выразаць, - разлаваўся мужык.

Прайшоў час, і мужык даўно забыўся пра тое, што адбылося летам. Пайшоў неяк у горад, спыніўся перад крамай і раптам у акне ўбачыў свой нож.

"Во дзіва! Як гэта мой нож тут апынуўся? Пайду запытаю!"

Зайшоў селянін у краму і пытае:

- Скажы, добры чалавек, як гэта мой нож у цябе апынуўся?

Узяў гаспадар нож і адвёў селяніна ўбок.

- Бачыш, - кажа ён, - калі ты ля капы снедаў, выйшаў я з балота пярэваратнем, якім мяне злая вядзьмарка зрабіла, і папрасіў у цябе хлеба. Ты спачатку на касу паглядзеў, а я на тваё горла. Калі б ты, небарака, дакрануўся да касы, я загрыз бы цябе. Тваё шчасце, што даў мне хлеба. Так я змог скінуць з сябе чары - воўчую скуру. А нож твой узяў, каб адшукаць цябе і аддзячыць за дабрату. Вось табе нож і срэбра за тое, што ўратаваў мяне. Толькі глядзі, нікому пра гэта не кажы.

Селянін узяў грошы і схаваў за пазуху.

**ЮХАН КУНДЗЕР**

*ІВАН ГУРБАН*

## СКАРГА

Скардзіцца крэсла ў адзенні бахматым:
— Мной карыстаюцца толькі на святы.
Сумна ўвесь тыдзень
Мне ў ціхім пакоі:
Ніхто не падыдзе,
Не возьме рукою, —
Чакаю людзей —
Хто на крэсла прысядзе?
Час марна ідзе
Ї жыццё мае кра́дзе!..
Зрабілі мне ногі
Ї моцныя плечы,
Каб іх карысталі
Па-чалавечы!
Пастаўце мяне
Ў кухонным пакоі,
Бо я не люблю
Адзіноты-спакою...




Маленькая дзяўчынка прабуе дацягнуцца да дзвярнога званка. Нейкі мужчына дапамагае ёй.

- Не ведаю, што будзеце цяпер рабіць вы, але я ўцякаю!..

* * *

На прыпынку мама штурхае свайго сына:

- Прачніся, сынок, ужо ідзе наш трамвай...

- Але ж я не ляжу на вуліцы, - адказвае хлопчык.

* * *

- Падымайся, сынок, ужо званіў будзільнік!

- Ведаеш, мама, калі ён звініць, то мне сніцца, што ў мяне страляюць. Таму і ляжу, як забіты.

* * *

- Мама, наш настаўнік ніколі ў жыцці не бачыў сабаку!

- Што ты гаворыш? Такога не можа быць!

- Шчыра кажу! Я намалявала на дошцы сабаку, а настаўнік зайшоў і спытаў: "Што гэта такое?!"

* * *

- Добры дзень, дзеці! Мяне завуць Янка Падарожнік. А вас?

- А нас - не! - хорам закрычаў увесь клас.

* * *

Дзеці прыехалі да бабулі на канікулы.

- Бабуля, а дзе ў цябе ванная?

- Няма ў мяне.

- Ура! У нас будуць сапраўдныя канікулы!

* * *

Настаўніца: Эля, назаві некалькі хатніх жывёл, якія маюць чатыры нагі.

Эля: Сабака, карова, конь, кот...

Настаўніца: А яшчэ?

Эля: Дзве курыцы.

* * *

- Калі б у цябе было шэсць аўтамашын, даў бы ты мне адну?

- Даў бы.

- А калі б у цябе было шэсць кашуль, даў бы ты мне адну?

- Даў бы.

- А калі б у цябе было шэсць насавых хустак, даў бы ты мне адну?

- Не.

- Чаму?

- Бо ў мяне ёсць шэсць.

*Падборку зрабіў*
*Янка Падарожнік*

## А*Д*Г*А*Д*А*Н*К*А




*На якім полі намаляваны часткі, з якіх можна скласці веласіпед?*

## ПАВУЧОК

Вярнуўся з камандзіроўкі мой таварыш. Пагаварылі пра тое-сёе. Сяргею спадабаўся горад. Ён хутка выканаў заданне, схадзіў у музей, вечарам сустрэўся са сваім інстытуцкім сябрам.

— Вельмі прыемная камандзіроўка, не часта такія выпадаюць, — падагульніў ён і ўсміхнуўся — неяк нязвыкла, нібы ў чым правініўся.

— Ой, бачу, нешта недагаворваеш.

— Мусіць, толькі табе, больш нікому не раскажу, — паглядзеў ён мне ў вочы. — Цікавы выпадак.

У гасцініцы пайшоў Сяргей памыць рукі. Раптам зверху ўпаў павучок — маленькі, шэранькі. Ён як мог кінуўся ратавацца ад пырскаў. Ускараскаўся трохі па сцяне ванны — зваліўся. Зноў ірвануўся. І зноў тое ж. Нейкую секунду паляжаў, сціснуўшыся ў камячок. Але ж жыць хочацца: палез па сцяне ванны — марудна, знясілена.

Сяргей узяў быў у прыгаршчы вады, каб змыць павучка, і... не змыў.

— Не ведаю, што сталася, — расказваў ён. — І ў дзяцінстве, і пазней я не шкадаваў ні павукоў, ні розных насякомых. А тут ёкнула сэрца. Шкада стала павучка. Што ён мне дрэннае зрабіў? Хіба ён вінаваты, што яму жыць трэба?

Сяргей памаўчаў, зірнуў мне ў вочы: ці не пасміхаюся з яго. І закончыў:

— Згарнуў я таго павучка на газету і пусціў пад ванну. А пасля, лёгшы спаць, падумаў: адкуль гэта ў мяне ўзялося? Зразумеў цану жыццю? Згадалася фраза ў артыкуле аднаго паляўнічага: „Асаблівую асалоду прыносіць паляванне на досвітку вясной, калі ўсё цвіце, усё ў прыродзе буяе". Прыкра стала: людзі імкнуцца забіць, ды не проста забіць, а ў час цвіцення прыроды, і знаходзяць у гэтым асалоду...

Што я мог сказаць Сяргею? Кожны ідзе да разумення прыроды па-свойму.

**МІКОЛА ДЗЕЛЯНОЎСКІ**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# МАЛІНА

Маліна звычайная (*Rubus idaeus* L.) гэта куст, які расце ў Еўропе ды паўночнай і заходняй Азіі. У Польшчы сустракаецца на нізінах і ў гарах, у лясах і зарасніках, а таксама на лясных вырубках. Зараснікі маліны часамі цягнуцца на многія дзесяткі гектараў.

Сёння ўжо ніхто дакладна не скажа, калі маліну пачалі выкарыстоўваць з лячэбнымі мэтамі. Рэцэпты, у склад якіх уваходзіла рубінавая ягада, можна сустрэць у любым старадаўнім „траўніку" ці „лячэбніку", а паданні, якія бытуюць сярод розных народаў, данеслі да нас нямала цікавых легенд пра гэту цудоўную расліну.

Маліна настолькі трывала ўвайшла ў наш быт, што многія нават не ўяўляюць, як можна абыйсціся без яе. Ягады маліны змяшчаюць у сабе непаўторны набор біялагічна актыўных спалучэнняў — арганічных кіслот, вітамінаў, цукраў, эфірных маслаў, а таксама ў апошнія дзесяцігоддзі знойдзены ў іх асобыя хімічныя рэчывы — стэрыны, якія маюць здольнасць папярэджваць развіццё артэрыясклерозу.

З ягад маліны падрыхтоўваюць сіроп, які народныя медыкі выкарыстоўваюць пры болях страўніка, для павышэння апетыту, паляпшэння працы сэрца. Таксама вараць з ягад вельмі смачнае варэнне, кампоты, робяць настойкі, віно, мусы, крэмы і розныя кандытарскія вырабы.

Для патрэб медыцыны збіраюць у ліпені спелыя, здаровыя ягады маліны і сушаць іх у сушарні спачатку ў тэмпературы каля 30° C, а пасля дасушваюць у тэмпературы каля 50° C. Атрымліваюць сыравіну — ягады маліны (*Fructus Rubi idaei*).

Неабходна памятаць, што збіраць ягады маліны трэба толькі ў сухое надвір'е раніцай, або пасля заходу сонца. Іх асцярожна здымаюць з пладаножкі і складваюць у неглыбокія карзіны, сочачы, каб не трапілі туды галінкі, лісткі, недаспелыя ці пераспелыя ягады. Перад сушэннем у сушарні ягады маліны варта патрымаць крыху на сонцы. Добра высушаныя ягады не павінны пэцкаць рукі і збівацца ў камкі.

Малінавы сіроп (*Sirupus Rubi idaei*) робяць са свежых ягад, а сыравіну *Folium Rubi idaei* — з лісцяў маліны; на працягу лета збіраюць маладое, добра вырасшае лісце маліны і сушаць яго ў натуральных сушарнях у цяністых і прадуўных месцах.

Як ягады, так і лісце маліны можна збіраць і з садовых раслін, і з растучых натуральна.

Значная частка ўраджаю маліны спажываецца, аднак, у сырым стане. Ягады маліны маюць вельмі прыемны арамат.

У народнай і навуковай медыцыне ягады маліны лічаць найпершым і найбольш надзейным патагонным сродкам. Яны прымяняюцца пры грыпе, бранхіце, у якасці адхарквальнага сродка пры кашлі як самастойна, так і ў складзе розных сумесяў з іншымі зёлкамі. Адварамі з лісця маліны палошчуць рот і горла.

Адварамі з кветак маліны лечаць гемарой, рожу, запаленне вачэй, а малінавым лісцем лечаць катары страўніка і кішак, а таксама паносы, асабліва ў дзяцей, ды выкарыстоўваюць яго ў хатняй касметыцы (ліквідуючь прышчы і вугры, фарбуюць валасы ў чорны колер). З раздушаных і пераспелых ягад можна зрабіць касметычную маску, якую накладваюць на памыты твар. Калі ў кагосьці скура занадта ўражлівая, да ягаднай кашкі можна дадаць крыху свежай смятаны ці тварагу. Такая маска ўздзейнічае на скуру не горш, чым многія праслаўленыя крэмы.

Вельмі карысны светлы малінавы мёд. Пчолы збіраюць яго ў вялікай колькасці. Мядовы пах кветак маліны чуваць здалёк, і пчолы ляцяць да іх не толькі тады, калі на дварэ стаіць добрае надвор'е, але і ў час цёплых дажджоў, паколькі кветкі расліны пахілены крыху ўніз і абаронены ад пырскання кропляў дажджу.

У пару, калі цвіце маліна, вуллі за дзень часамі прыбаўляюць на некалькі кілаграмаў вагі. Кветкі маліны выдзяляюць настолькі многа нектару, што пчала за адну мінуту можа выбраць яго ледзь з трох-пяці кветак, у той час як у іншых раслін яна за мінуту можа наведаць нават трыццаць кветак.

Маліне таксама карысная сімпатыя пчол. Калі яны наведваюць кветкі маліны, яе кусты даюць амаль у тры разы больш ягад, прычым значна больш салодкіх, сакавітых і буйных.

**Адвар з ягад маліны**

2 лыжкі сушаных ягад заліць 1 шклянкай кіпетню і трымаць на пары пад покрыўкай 15 мінут. Настойваць яшчэ 10 мінут, тады працадзіць. Дарослым можна дадаць 1 лыжку рому або 1—2 лыжкі малінавага сіропу. Выпіць вечарам гэты адвар за адзін раз, калі ў кагосьці павышаная тэмпература. Рэкамендуецца адначасова прыняць „*Polopirynę*", а таксама вітамін С.

Дзецям да адвару можна дадаць мёд, малінавы сіроп ці сіроп з чорнай парэчкі; немаўлятам пачынаць даваць ад дзвюх чайных лыжачак адвару.

**Зёлкі пры ангіне**

Змяшаць па 20 г лісця маліны, лісця шалфею і кветак рамонку. Заліць 1 лыжку сумесі 1 шклянкай кіпетню і на пары трымаць пад покрыўкай 15 мінут. Настойваць яшчэ 10 мінут, працадзіць. Зёлкі прымяняюцца для паласкання рота і горла, а таксама для кампрэсаў. Палошчуць рот і горла шмат разоў у дзень пры ангіне.

Сушаныя ягады маліны ўваходзяць у склад зёлкавай мяшанкі „*Pyrosan*" („*Herbapol*"), якая з'яўляецца напотным сродкам і зніжае тэмпературу.

**ЭСКУЛАП**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, сніцца мне, што я, мой муж і мая супрацоўніца знаходзімся ў бальніцы. У пакойчыку стаіць ложак, але пасцелі на ім няма, толькі газеты нейкія ляжаць, многа іх. Я загледзелася на сяброўку, на яе галаву. У яе былі вельмі прыгожыя светлыя валасы. Яны кручаліся і наогул былі вельмі буйныя. Даўжыня іх была да шыі, але прычоска выглядала цудоўна. Што мяне чакае?

**Марыся**

Сніцца, што знаходжуся я на гары. Гэта могільнік у маёй роднай вёсцы. Не бачу ні крыжоў, ні магіл. Стаю на гары і захапляюся краявідам: вельмі прыгожая зялёная даліна, сонечная пагода, навокал цудоўна. На гэтай гары сабраліся людзі. Сталі ў кружок, а я ў сярэдзіне. Чакаюць прамовы святароў. Было іх тут некалькі, але апранутыя яны былі звычайна, не ў сутанах. Я бачыў толькі аднаго бацюшку. Але прамовы не было.

**Мікалай**

Марыся! Твой сон добры. Быць у бальніцы — значыць, чакае цябе лепшае здароўе, шчасце, а мо прыбытак нейкі, наогул поспех. Тое, што пры гэтым табе ўбачыліся вельмі прыгожыя валасы, можа сведчыць хутчэй за ўсё аб неспадзяваным фінансавым прыбытку.

Мікалай! І твой сон сведчыць аб паляпшэнні здароўя. Ты ж быў на могілках і не было відаць ні крыжоў, ні магіл. Прыгажосць і зелень, якую ты бачыў з гары, сведчаць аб тым, што можаш спакойна глядзець у будучыню. Бацюшка паказвае на тое, што чакае цябе размова з цікавым чалавекам.

**АСТРОН**




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**КАРП З КАПУСТАЙ ПА-РАСІЙСКУ**

Прадукты:

*1 - 2 карпы,*
*паўкілаграма маладой капусты,*
*паўшклянкі алею,*
*2 - 3 лаўровыя лісткі,*
*10 зярнят пахучага перцу (англійскага зелля),*
*10 дэкаў алію без костачак,*
*3 кіслыя агуркі,*
*некалькі марынаваных вішань,*
*мука.*

Рыбу пачысціць, памыць, пасаліць, абсыпаць мукой, падсмажыць на алеі, даліць крыху вады і разам з ванначкай уставіць на 15 мінут у духоўку.

Капусту пашаткаваць, укінуць на 5 - 10 мінут у пасолены кіпецень, адцадзіць, пералажыць у іншую каструльку. Дадаць агуркі, алівы, вішні ды прыправы. Тушыць усё разам на алеі каля 20 мінут.

Гатовую рыбу пералажыць на вялікую талерку, навокал рыбы палажыць капусту, паліць усё рыбным соусам. Падаваць з бульбай.

**ГАСПАДЫНЯ**

# ВІРАВАНКА З „Е"




1. закрывае скрыню, 2. цяпер у нас, 3. тлушч з раслін, 4. быў з молатам у гербе, 5. бабка з папулярнай народнай жартоўнай беларускай песні, 6. рака як дзяўчына, 7. ліпкае рэчыва, 8. усё, што звязана з палавымі органамі, 9. там будуюць і рамантуюць судны, 10. чорнаскуры, 11. матэрыял, рэчыва або арганізм, 12. хваёвае дрэва, 13. легальны падман падчас гульні ў карты. 14. „Арол" або „Пагоня", 15. майстар сваёй справы, 16. пірожнае з разынкамі.

**ЯДАНЬ**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 21 н-ра:**

**Упоперак:** Іўшм, булка, Егіпет, слых, паром, Алесь, нявестка, гар, інтрыган, міжрэчча, ара, скараход, горка, Нурмі, якар, царызм, манна, блін.

**Уніз:** курава, склон, Шалкевіч, мех, Вісла, персы, мястэчка, акардэон, гама, ружа, Агра, Анка, Нагасакі, рэмень, волат, скрып, Дунай, ямб.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Мікалаю Красоўскаму** з Бельска-Падляшскага (віншуем і дзякуем за заўвагу!).

**БРАТ, ЯКІ НЕ НАРАДЗІЎСЯ**

Аб сенсацыйным „жарце" прыроды паведаміла французская прэса. У семнаццацігадовага юнака Жан-Жака Ларана з Парыжа было вынята з грудной поласці цела яго брата-блізнюка, якое важыла 1800 грамаў. Плод, натуральна, не меў прызнакаў жыцця.

Семнаццаць гадоў насіў Жан-Жак свайго брата пад сэрцам у вобласці правага лёгкага, не маючы аб гэтым ні малейшага ўяўлення. Усё пачалося ў той дзень, калі юнак, вярнуўшыся са спартыўнай трэніроўкі, адчуў моцны боль у грудзях.

— Я думаў спачатку, што гэта ад заняткаў спортам, — расказвае Ларан. — Але боль не спыняўся.

Хуткая дапамога даставіла Жан-Жака ў бальніцу, дзе было ўстаноўлена, што прычынай болю з'явілася цела брата, якое ён насіў усе гэтыя гады ў сабе. Аперацыя працягвалася 1 гадзіну 50 мінут. Зараз стан здароўя Жан-Жака Ларана нармальны.

**(а-ця)**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраноўіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Гармата** — інструмент, з дапамогай якога ўдакладняецца дзяржаўная мяжа.

**Гісторыя** — у большасці ілжывая інтэрпрэтацыя ў большасці абсалютна неістотных падзей, да якіх прычыніліся ў большасці нядздольныя кіраўнікі і ў большасці дурныя вайскоўцы.

**Грошы** — благаслаўленне, якое нам дорага толькі тады, калі мы з ім расстаемся. Яны з'яўляюцца таксама пацвярджэннем нашай культуры і пропускам у свецкае грамадства.

**Год** — адрэзак часу, які складаецца з трохсот шасцідзесяці пяці расчараванняў.

**Добразычлівасць** — кароткая прадмова да дзесяцітомнага прымусу.

**Даверaная асоба** — чалавек, якому А даверяе сакрэты В, якія яму ў сваю чаргу даверыў С.

**Дантыст** — штукар, які, устаўляючы ў ваш рот жалеза, выцягвае з вашай кішэні золата.

**Дарога** — палоска зямлі, па якой чалавек можа прыйсці адтуль, дзе нудна, туды, дзе абсалютна нявартa быць.

**Дасягненне** — смерць павагі і нараджэнне агіды.

**Двойчы** — зашмат.

**Дзённік** — запіс здарэнняў і ўчынкаў, пра якія чалавек можа ўспамінаць не чырванеючы.

**Доктар** — той, на каго мы ўскладаем нашыя надзеі, калі хварэем і на каго нацкоўваем нашага сабаку, калі не хварэем.

*З англійскай пераклаў*
**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**

*МІКОЛА ФЕДЗЮКЕВІЧ*

## СУЧАСНЫЯ ПРЫПЕЎКІ

Трактарыст у лазні мыўся,
пасля лазні пахмяліўся,
і каб час не марнаваць.
носам стаў зямлю араць.

Брыгадзір заве на луг,
а Пятро нібы аглух.
Бо яму не да касы —
з самай раніцы — касы.

Не далёка і не блізка
нашы кавалеры —
пасадзілі бульбу з Мінска
хлопцы-інжынеры.

Стаіць човен вады повен,
зоркі — недагаркі...
Раней дзеўкі — карамелькі,
а цяпер — цыгаркі.

Я ішла праз бор цяністы,
брала ягады ў прыпол.
Усе хлопцы — трактарысты,
мой мілёнак — балабол.

Маладая ўпадабала
маладога, хітрага —
маладога, хітрага,
што не спіць з паўлітраю.

# НАЎКА

*Мал. А. Гармазы*

*УЛАДЗІМІР АШУРКА*

## ПРАРОК
*(гумарэска)*

Аднойчы ў нашым аддзеле адбылася незвычайна падзея: выбары галоўнага астролага. Пасля працяглага марафона ім стаў малады супрацоўнік Валера, які паабяцаў скласці для кожнага супрацоўніка асабісты эратычны гараскоп... А неўзабаве Валера пачаў сур'ёзна прадказваць будучыню. Штуршком паслужылі дзбаты вакол таго, куды паставіць новы вазон з геранню. І тут Валера як заўсёды ўставіў свае „пяць капеек".

— Валачыце гэтую чортаву расліну вунь туды! — і махнуў рукой у бок стала загадчыка аддзела.

— Замест папарацї? — не зразумелі супрацоўнікі.

— Замест загадчыка! — адрэзаў Валера.

І што б вы думалі? Праз месяц загадчыка сапраўды знялі, а новы перасеў як мага далей ад анамальнага месца. Тым часам Валерава слава расла, бо ўсе яго прадсказанні, у тым ліку і наконт замужжа самай старой дзеўкі аддзела, Тамары, збыліся, як па-напісанаму.

Але, на жаль, усё добрае раней ці пазней заканчваецца. Здарылася гэта і з Валерам.

Новы загадчык пажадаў даведацца ў Валеры пра свой лёс, але астролаг чамусьці адвёў вочы ўбок. Ну, загадчык, вядома, пакрыўдзіўся: Звольню! І пачаў рыхтаваць загад. Валера звольніўся, але на развітанне заўважыў загадчыку: „Сустрэнемся на біржы працы".

І сапраўды праз тыдзень услед за Валерам „паляцеў" і недаверлівы загадчык...

Ну, а мы зноў працуем — цяпер ужо з новым шэфам. Але ні пракрокаў, ні астролагаў ужо не выбіраем. Загадчык забараніў.

## СЕНТЭНЦЫЇ

Жыццё — гэта каўбойская прыгода натуры. Прыгожая ў сваёй непаўторнасці.

* * *

Тыраны найлепш адчуваюць сябе ў адкормачным пункце смерці.

* * *

Не хавай твару ў прыцемку бяспамяцтва — разбяруць больш выразна.

* * *

Жанчына — гэта прадонне, перад якім стаіць бездапаможны мужчына.

**БАРЫС РУСКО**

## ЖАРТАЧКІ

У ЗАГС прыйшла пара маладых і заявіла, што хочуць узяць шлюб.

— Ці вы дастаткова падрыхтаваліся да гэтак важнага жыццёвага рашэння? — пытаецца ўраднік.

— О, так, — адказвае нарачоны. — Купілі мы ўжо 10 літраў спірту, 30 бутэлек гарэлкі і столькі ж бутэлек віна.

* * *

Матацыклісту пад колы трапіла кошка.

— Я пакрыю вашы страты, — сказаў хлопец уласніцы.

— А што, ты ўмееш мяўкаць і мышэй лавіць? — недаверліва паглядзела на яго гаспадыня.

* * *

— Хлопчык, можаш мяне перавесці на другі бок вуліцы? — просіць бабуля.

— Пачакайце, цётка, цяпер чырвонае святло!

— На зялёнае дык я і сама магу пайсці, — нервуецца бабуля.

* * *

— Якая глыбіня мора ў гэтым месцы?

— Каля васьмі метраў.

— Дзякаваць Богу. Сёння раніцай я чула, што было пад намі каля 80 метраў, а я ж не ўмею плаваць!

* * *

Пасажыр да сцюардэсы:

— Людзі з вышыні выглядаюць як мурашкі! Як высока мы ляцім?

— Адзін метр. А гэта сапраўды мурашкі, — адказала сцюардэса.

* * *

Чэрці прапанавалі анёлам сыграць у футбол.

— Мы згодны, — адказалі анёлы. — Тым больш, што найлепшыя ігракі знаходзяцца ў нас...

— Магчыма, — не сталі спрачацца чэрці, — затое ўсе суддзі — нашы...

* * *

Сцюардэса супакойвае пасажыраў:

— Здарылася невялікая аварыя левага матора. Прашу не хвалявацца. Самалёт рыхтаваў для палёту мой муж, інжынер-механік.

Адзін з пасажыраў трывожным голасам спытаўся:

— Прабачце, а як складаецца вашае сужыццё?

* * *

— На жаль, усе нумары заняты, — гавораць у прыёмнай гасцініцы. — Свабодны толькі пакой для маладажонаў.

— А чым ён адрозніваецца?

— У ім сапсаваны тэлевізар.

* * *

Адна блыха знайшла грошы.

— Што ты за іх купіш? — пытаецца другая.

— Куплю для сябе асобнага сабаку, — адказвае блыха.

**Падборку зрабіў**
**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькая! Ты ўсё пра секс ды пра секс. Як толькі дзеці вучыцца перасталі, дык усё нейкія сексуальныя інструкцыі даеш. Часамі дык аж чытаць сорамна. А я табе скажу, што гэты секс абрыд мне зусім. Праўда, не скажу, каб сталася гэта па тваёй віне. Цябе я ўсё ж чытаю з прыемнасцю, хаця часамі твае маленькія свінства шакіруюць.

Дык вось. Мне 23 гады. Выхоўвалі мяне вельмі старанна. З дзецьмі ў лагер ніколі не пусцілі, заўсёды з бацькамі ездзіла. А не давядзі Гасподзь, яшчэ б хтось згвалціў...

А тут (было мне, здаецца, гадоў дзесяць) еду я аўтобусам. На адным з прыпынкаў увайшоў малады, прыстойны чалавек. Стаў за мною, адной рукой прытрымліваючыся за ручку крэсла. Раптам чую, як яго правая рука палезла пад мае штонікі. Мною аж затрэсла. Я крыху адсунулася, а ён — бліжэй. Ізноў яго рука блукае па маім дзіцячым задзіку пад штанамі. Пад сукеначку „міні" няцяжка было сягнуць мужчынскай лапай. Я адбегла ў перад аўтобуса. Стала каля кабіны шафёра. І гэты хам са сваімі салодкімі вочкамі тут як тут. Ізноў блукае ў марах, а лапа яго ходзіць там, дзе вока не сягае. Спыніўся аўтобус. Як не выскачу я, як не пабягу хутчэй абы-куды!

Гэты непрыемны, страшэнны ў маім уяўленні інцыдэнт застаўся мне ў памяці на доўгія гады і, можна сказаць, што згідзіў секс. Толькі ў дваццаць гадоў я адчула цягу да палавых зносін між мужчынам і жанчынай і пра той інцыдэнт памалу забылася.

І думала, што ўжо назаўсёды. Але ж не, не ўсё кепскае так хутка канчаецца.

Мы жывем непадалёку ад рыбнай крамы. Мама ўбачыла, што якраз прывезлі свежую рыбу. (Мела быць рыбы пад дастаткам, бо цяпер — прыватная, аднак прывозяць раз у тыдзень, радзей, як дагэтуль). А ў мамы якраз абед варыцца. Дык, кажа, бяжы, дачушка, мо штось купіш сэнсоўнае, бо не маю часу ў чарзе стаяць.

Пайшла я ў тую чаргу. Стаю, чакаю. Пачалі прадаваць рыбу. Усе ўстрапянуліся, паўставалі з падваконнікаў, сціснуліся ў чарзе. Раптам чую, нешта порнула мяне ззаду. Я падсунулася наперад. Ізноў быццам нейкі кол упёрся ў маю сукенку.

Я адвярнулася. Бачу ізноў прыстойнага малайца, які бессаромна карыстаецца сітуацыяй чаргоўца. А так, праўду кажучы, думаю, што не па рыбку ён у гэтую чаргу стаў, а дзеля прытулянак. Ну, і панесла мяне. Як не адвярнуся я, як не нараблю крыку на ўсю краму. „Вон з чаргі! — крычу. — Хамут!"

Нарабіла я крыку, а пасля шкадавала. Думаеш, хтосьці мяне зразумеў? Рагаталі, як непрытомныя. Ніхто не шкадаваў мяне, а шкадавалі яго — за тое, што выгналі з чаргі. Ну, бо ж, вядома, уцёк ён з крамы адразу. А мо я мела яго яшчэ пагладзіць па галоўцы за яго паскудны ўчынак?

**Лідка**

Лідка! Не трэба было яго гладзіць, і не трэба было крычаць. Можна было выйсці з чаргі і стаць за ім, або за наступным чалавекам.

А на другі раз няхай мама па рыбу ходзіць сама. Ёй такое не надарылася б.

**СЭРЦАЙКА**